

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 ВЕРАСНЯ 2000г. № 35/4067 КОШТ 95 РУБ.









***Праляцела лета,***
***як і не было...***
***Зноў у школах***
***засвяцілася святло,***
***Да якога дзеці***
***сёння зноў прыйшлі***
***Па сцяжынах светлых***
***роднае зямлі...***





*Фота Уладзіміра КАГУЦЕНКІ і Максіма ПРУПАСА*



# КОЛА ДЗЁН

***1 верасня 2000 года мусіў цалкам уступіць у сілу Закон аб мовах і сёння беларуская дзяржава павінна была быць беларускай, як і належыць ёй быць. Але Закон аб мовах, на ўступленне якога ў поўную сілу адводзілася 10 гадоў, так у сілу і не ўступіў. І гэта ўсё ў краіне, якую ў свеце ведаюць пад назвай Беларусь...***

## КОШТЫ ТЫДНЯ

Сёння нашы дзеці пайшлі ў школу. Свята. Навучанне ў школах бясплатнае, як пры савецкай уладзе, але за падручнікі — ужо і не першы год — трэба плаціць. Самую вялікую суму (1900 рублёў за камплект) прыйдзецца вылажыць за падручнікі бацькам 9-класнікаў. У 11 (12-х) класах бацькоўскі ўзнос складзе 1720 рублёў, у 10-х — 1880 рублёў, у 8-х — 1700 рублёў, у 7-х — 1400, у 6-х — 1070 і ў 5-х — 989 рублёў. У пачатковай школе з рускай мовай навучання камплект падручнікаў для 4-х класаў будзе каштаваць 875 рублёў; для 3-х класаў 11-гадовай школы — 836 рублёў, для 3-х класаў 12-гадовай школы — 1470 рублёў; для 2-х класаў — 1210 рублёў; для 1-х класаў — 1110 рублёў і для падрыхтоўчых — 663 рублі. У пачатковай школе з беларускай мовай навучання бацькам чацвёртакласнікаў прыйдзецца ўнесці за карыстанне падручнікамі 875 рублёў, другакласнікаў — 1080, першакласнікаў — 1010, падрыхтоўчых класаў — 663 рублі. Плата за карыстанне падручнікамі па праграме трэцяга класа 11-гадовай школы складзе 740, а па праграме 12-гадовай школы — 1470 рублёў. Грошы на сённяшні дзень не такія ўжо і вялікія, але, калі яны ёсць у сям'і, дзе ёсць дзеці, што ідуць у школу...

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

Вакол нашай краіны знаходзіцца пяць АЭС — Ровенская, Смаленская, Чарнобыльская, Ленінградская і Ігналінская. І ўсе яны, як і Чарнобыльская, у любы час могуць прынесці біду. З гэтай нагоды ў Вільні адбылася міжнародная канферэнцыя спонсараў закрыцця Ігналінскай АЭС, у якой удзельнічалі прадстаўнікі 29 краін Заходняй Еўропы. На закрыццё першага блока атамнай электрастанцыі да 2005 года Данія, Швецыя, Фінляндыя, Нарвегія, Аўстрыя, Швейцарыя, Галандыя, Польшча, ЗША, а таксама Еўракамісія выдзелілі 208 мільёнаў еўра. Аднак намеснік міністра ядзернай энергетыкі Расіі Б. Нігматулін заявіў, што яго краіна згодная на свае сродкі працягваць эксплуатацыю Ігналінскай АЭС і гарантаваць Еўропе бяспеку. Але хочацца спадзявацца, што да такой заявы ў Еўропе не прыслухаюцца...

## ЧУТКІ ТЫДНЯ

Апошнімі днямі ходзяць чуткі, што ў хуткім часе павінна павялічыцца "мінімалка". Аднак чуткі-чуткамі, а Нацыянальны савет па працоўных і сацыяльных пытаннях прыняў рашэнне перагледзець з 1 кастрычніка памер тарыфнай стаўкі першага разраду. Згодна з гэтым рашэннем, Федэрацыя прафсаюзаў уносіць ураду прапанову ўстанавіць з 1 кастрычніка аплату працы работнікаў бюджэтнай сферы па першым разрадзе не ніжэй за 15—15,5 тысячы рублёў, у тым ліку ўвесці тарыфную стаўку першага разраду — 9 тысяч рублёў, і фіксаваную да стаўкі даплату — 6 тысяч рублёў. Справа цяпер за ўрадам...

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ ТЫДНЯ

У нашай краіне ўпершыню ўстаноўлена і ўведзена ў эксплуатацыю ветраэнергетычная ўстаноўка. Збудавана яна ў Мядзельскім раёне, недалёка ад вёскі Занарач. Будаўніцтва і пуск у дзеянне "ветрака", як і яго купля, ажыццяўляліся пры фінансаванні нямецкай дабрачыннай арганізацыі "Дамы замест Чарнобыля". Свае ўзносы ў гэта высакароднае пачынанне ўнёс 2501 жыхар зямлі Паноўны Рэйн — Вестфалія. Закупленая ў нямецка-дацкага канцэрна "Нардэкс" установа была дастаўлена ў Беларусь па Балтыйскім моры праз порт у Клайпедзе. Яна можа выпрацоўваць электраэнергію для 150 дамашніх гаспадарак, а таксама пастаўляць яе ў агульную электрасетку раёна. Чакаецца, што на сродкі, выручаныя ад продажу лішняй электраэнергіі, у раёне будзе пабудавана новая бальніца. Словам, паболей бы такіх "ветракоў"!

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

На другое паўгоддзе Нацыянальным банкам запланаваны шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на выкананне Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 2000 год. У верасні мяркуецца зняць абмежаванні на правядзенне разлікаў у беларускіх рублях па імпарту. Чакаецца, што да канца года будзе спынены розднічны гандаль і аказанне паслуг насельніцтву за замежную валюту. Ліцэнзіі на гэты від дзейнасці будуць адменены на працягу трох месяцаў пасля выхаду на адзіны курс беларускага рубля. На сённяшні дзень у абменных пунктах валюты за адзін долар даюць 1000—1010 рублёў, а курс абмену ўстаноўлены Нацыянальным банкам РБ складае 900 рублёў за долар.

## ПОСПЕХІ ТЫДНЯ

Уборка зернавых у нашай краіне ідзе поўным ходам. Па стане на 29 жніўня збожжавыя і зернебабовыя сабраны з 87 працэнтаў плошчы. Такім чынам, з 1 мільёна 971 тысячы гектараў намалочана 4 мільёны 571 тысяча тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць склала 23,6 цэнтнера з гектара. Найбольшая ўраджайнасць збожжа, як і ў мінулыя гады, у Гродзенскай вобласці — 32,4 ц/га (агульны вал збожжа — 994 тысячы тон). Потым ідзе Брэсцкая вобласць — 24,7 ц/га (676 тысяч тон), Мінская — 23,6 ц/га (1154 тысячы тон), Магілёўская — 21,2 ц/га (669 тысяч тон), Віцебская — 20 ц/га (511 тысяч тон) і Гомельская вобласць — 19,1 ц/га (566 тысяч тон). Да пlануемых 6 мільёнаў тон збожжа яшчэ далекавата. Але памарыць можна...

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Па дадзеных статыстыкі ў ЗША на кожнага грамадзяніна прыходзіцца адна адзінка зброі. У Маскве знаходзіцца на ўліку 50 тысяч. Колькі ў нашай краіне зброі на руках насельніцтва — невядома. Але з нядаўняга часу пасля шматлікіх скаргаў бацькоў на траўмы, а педагогаў на парушэнне дысцыпліны сталічныя ўлады прынялі рашэнне аб забароне гандлю пісталетамі з пластыкавымі шарыкамі. Цяпер на тэрыторыі горада і рэчавых рынкаў такія пісталеты купіць нельга. Даўно ўжо б!..

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Мала хто сёння не здае шклатару, а разам са смеццем выкідае яе ў смецніцы. А тыя, хто здае, заўважылі, што на яе нядаўна ўстаноўлены новыя закупачныя цэны. Такім чынам, каньячная бутэлька 0,5 прымаецца па цане 55 рублёў (было 40), піўная — 45 рублёў (30). Гарэлачная бутэлька 0,5 з "вінтом" зараз каштуе 60 рублёў, ёмістасцю 0,7-0,8 з "вінтом" — 70 рублёў (было 60), гарэлачная 0,25 ("чакушка") — 25 рублёў, 0,37 л. — 60 рублёў. Бутэлька 0,5 л. з-пад малака каштуе зараз 40 рублёў (было 33), слоікі для смятаны 0,2—0,25 л. — 15 рублёў. Слоікі для кансервавання 0,2—0,25 л. прымаюцца па 30 рублёў (было 20), 0,5—0,8 л. — 40 рублёў (28), літровыя слоікі — 65 (44), 2-літровыя 80 рублёў (54), 3-літровыя — 150 (было 102) рублёў. Падвышка невялікая, але, калі ў вас поўны балкон шклатары, то вы амаль што багаты чалавек. Але...



ПАДЗЕІ

# Спатканне прызначае... "Дон Жуан"

## 3-ГА ВЕРАСНЯ АДКРЫЕ СЕЗОН НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ОПЕРЫ БЕЛАРУСІ

Менавіта "Дон Жуан" В. А. Моцарта будзе першым спектаклем. Як вядома, яго прэм'ерны паказ адбыўся пры канцы сезона мінулага, і далейшае сцэнічнае жыццё разгорталася ўжо на гастролях. Гастролі ж (што таксама нашаму чытачу вядома) адбываліся ў Германіі і ў Швейцарыі, куды беларуская оперная трупа была запрошана для ўдзелу ў традыцыйных летніх фестывалях.

Відавочцы расказваюць, што "германская частка" фестывальнага турнэ апраўдала далёка не ўсе спадзяванні. Чарада моцных навальніц была выпрабаваннем і для наваколля, і для чалавечых нерваў. Давялося нават адмяняць спектакль. Запрошаныя на вядучыя партыі замежныя "зоркі з імёнамі" не здзівілі-не ўразілі нічым такім, чаго б не змаглі паказаць майстры беларускай сцэны, волю імпрэсарыо "адсунутыя" на другі план... А вось у швейцарскім Салатурне радасных уражанняў было паболей. Яно й не дзіўна: памятаеце, як распавядала ў "ЛіМе" А. Саламаха пра ўзровень нават не рэкламы, а павагі, захаплення, чым вылучыліся швейцарскія арганізатары, прадстаўляючы беларускіх артыстаў у фестывальнай праграме!

У кожным разе, артыстам і музыкантам лепей выязджаць на гастролі, удзельнічаць у фестывалях, чым кіснуць ва ўласным клёку. Вандроўкі ў іншыя краіны, стасункі з новымі людзьмі — гэта заўсёды набытак, досвед, творчы імпульс. Асабліва, калі дадаюцца станоўчыя эмоцыі. Прынамсі, малады дырыжор Вячаслаў Чарнуха выклікаў захапленне калегаў, раскрыўшыся як валявы, працавіты, сталы маэстра; Таццяна Варапай узрушыла сваім натхненнем і самааддачай у партыі Кармэн. Сусветна вядомы дырыжор Ральф Вайкерт, які правёў нашы спектаклі на фестывалі ў Швейцарыі, надзвычай высока ацаніў харавы калектыў Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі, назваўшы яго адным з першых у свеце. І адзначаў, што Беларусь мае таксама некалькіх салістаў сусветнага ўзроўню. Такімі паказалі сябе Тамара Глаголева, Вікторыя Курбацкая, Уладзімір Пятроў...

Новы сезон абяцае аматарам опернага мастацтва некалькі прэм'ер. "Барыс Гадуноў", залетась прадстаўлены ў канцэртным выкананні (музычны кіраўнік Аляксандр Анісімаў), да пачатку лістапада мусіць, нарэшце, набыць сапраўднае тэатральнае аблічча ў рэжысуры Мікалая Пінігіна ды ў сцэнаграфіі Зіновія Марголіна. Доўгачаканая "Пані Ядвіга" У. Солтана (лібрэта С. Клімковіч) паўстане ў прэм'ерным канцэртным паказе. Рэпертуар папоўніцца операмі Д. Вердзі — з улікам пажаданняў замежных імпрэсарыо, з разлікам на новае гастрольнае лета.

Дарэчы, тэатр выпраўляецца на гастролі і ў другой палове верасня. Праўда, не за блізкі свет, а ў Віцебск. Горад глыбокіх музычных традыцый, пэўна, сустрэне яго з цікавасцю, разуменнем і цеплынёй.

А пакуль — сустрэчы з публікай у роднай зале на Траецкай гары. Першая мае быць асабліва гарачай: урачыстае адкрыццё сезона, прэм'ера, да таго ж, сустрэчу прызначае "Дон Жуан". За пультам — непаўторны маэстра, галоўны дырыжор тэатра Аляксандр Анісімаў. У ролі неўміручага (хаця і "мечанага" смяротнай карай) дамскага спакусніка — Уладзімір Пятроў. Прыемнага спаткання!

**С. Б.**



*На здымку: у вераснёўскім рэпертуары — спектакль "Князь Ігар".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

"Слава табе Украіна, ад роду да роду", — так называлася вечарына, якая прайшла ў вялікай зале Дома літаратара і была прысвечана 9-й гадавіне незалежнасці Украіны. Ладзіў яе Саюз пісьменнікаў разам з грамадскімі аб'яднаннямі ўкраінцаў на Беларусі.

У вялікай насычанай праграме гучалі вершы і песні, пераклады твораў украінскіх пісьменнікаў на беларускую мову. Удзельнікаў вечарыны віталі в. а. абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, пісьменнік Браніслаў Спрынчан, перакладчык Валеры Стралко, прэзідэнт беларускага грамадскага аб'яднання "Ватра" Уладзімір Гутоўскі, надзвычайны і паўнамоцны пасол Украіны на Беларусі Анатоль Дронь.

●

Беларуская паэтка Іна Снарская, якая жыве ў Палтаве, — часты госць на Радзіме. Здавалася б, зусім нядаўна прайшлі вечарыны з яе ўдзелам у Мінску, і зноў — цікавая сустрэча. На гэты раз пад крылом тэатра "Зьніч", якім кіруе актрыса Галіна Дзягілева. Разам з віноўніцай урачыстасці прысутныя віталі пісьменніцу Вольгу Іпатаву, Леаніда Дранько-Майсюка і спевака Міхася Пацука.

●

Сярод творчых маршрутаў літаратараў у летні перыяд па здраўніцах, летніх дзіцячых аздараўленчых лагерах не застаўся ўбаку і пісьменніцкі санаторый "Іслач". Перад адпачываючымі выступілі Уладзімір Ліпскі, Навум Гальпяровіч, кампазітар Алег Чыркун, паэт з Масквы Пётр Кошаль. Плануюцца рэгулярныя выезды пісьменніцкіх брыгад у "Іслач" для творчых сустрэч з адпачываючымі.

●

Па выніках калегіі Дзяржкамітэта па друку, якая разглядала пытанне аб рабоце дзяржаўных выдавецтваў па збыце ўласнай прадукцыі, распрацоўваецца доўгатэрміновая праграма рэкламы і прапаганды беларускай кнігі, мэта якой — шырокая папулярызацыя і інфармаванне насельніцтва аб выхадзе ў свет навінак літаратуры.

Гэтыя задачы будуць вырашацца агульнымі намаганнямі кнігавыдаўцоў, распаўсюджвальнікаў кніг і Саюза беларускіх пісьменнікаў, які мае багатыя традыцыя прапаганды нацыянальнай кнігі.

У прапановах, якія накіраваў СБП у Камітэт па друку — сустрэчы ў бібліятэках, навучальных установах, кнігарнях, сумесныя выезды пісьменнікаў і выдаўцоў у рэгіёны краіны, штогадовае скарынаўскае свята кнігі ў Полацку, аднаўленне дзейнасці Бюро прапаганды беларускай літаратуры.

**Н. К.**



ІМПРЭЗЫ

# "Літаратурныя спатканні"

15 жніўня ў сталічным скверы імя Янкі Купалы ля помніка паэту адбыліся першыя "Літаратурныя спатканні". Гэтае мерапрыемства з дазволу Мінгарвыканкама ладзіла гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны.

Адзначым, што "Літаратурныя спатканні" нарадзіліся не на пустым месцы. Фактычна, гэта даўняя традыцыя. І аб гэтым нагадала ўсім прысутным намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

Мэта "Літаратурных спатканняў" — прапаганда твораў на беларускай мове і папулярызацыя беларускіх перыядычных выданняў. Першым госцем "Спатканняў..." стала рэдакцыя газеты "Чырвоная змена". Яе супрацоўніца Алена Калоша пазнаёміла з гісторыяй газеты, нагадала пра вядомых паэтаў, якія пачыналі свой творчы шлях на старонках "Чырвонай змены". Адзін з іх — Леанід Дранько-Майсюк — прачытаў прысутным цэлую нізку вершаў. Вядомы бард, сталы ўдзельнік паэтычных чытанняў Валеры Пазнякевіч пазнаёміў прысутных з уласнымі вершамі і выканаў некалькі песень. Свае новыя творы пачытала Тамара Мазур, былая супрацоўніца "Чырвонай змены", а сёння журналіст часопіса "Першацвет". Даўні сябра газеты, намеснік старшыні Мінскай гарадской рады ТБМ Пятро Русаў праспяваў некалькі песень на вершы Янкі Купалы. Адбылося таксама знаёмства з пастаянным аўтарам "Чырвонай змены", паэтам Вячаславам Корбутам.

Значную ролю "Чырвонай змены" ў жыцці нашага грамадства адзначылі ў сваім выступленні старшыня ТБМ А. Трусаў.

Напрыканцы "Спатканняў" гурт жанчын, натхнёны паэтычнай атмасферай, выканаў песні "Не згаснуць зоркі ў небе", "Пагоня" і інш.

**Алена АНІСІМ,**
**старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ**

УГОДКІ

# Каб супрацьстаяць ворагам

14 жніўня 1385 года адбылася падзея, якая мае дачыненне да станаўлення і фарміравання беларускай дзяржаўнасці. І хоць у шэрагу іншых яна шмат у чым менш значная, водгалас яе доўга даваў аб сабе знаць. Маецца на ўвазе падпісанне акта дзяржаўнага саюза паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каронай Польскай, што адбылося ў Крэўскім замку і ўвайшло ў гісторыю, як Крэўская унія 1385 года.

Вялікі князь Ягайла пры гэтым дакументальна пацвердзіў папярэдне прынятую дамову перайсці ў каталіцтва і ахрысціць, як таго патрабуе лацінскі абрад, усіх язычнікаў-літоўцаў. Гэта, а таксама тое, што польскія паслы запэўнілі, як і абяцалася, у жонкі Ягайлу аддавалі малалетнюю польскую каралеву Ядвігу, і спрыяла саюзу двух суседніх дзяржаў. На гэта станоўча паўплывала і прымірэнне Ягайлы з Вітаўтам, які па вяртанні з Прусіі, атрымаў ад першага ў якасці ўдзельнага княства Гародню і Падляшша.

Подпіс Вітаўта значыцца і пад Крэўскай уніяй. І, канечне ж, яе падпісалі сам Ягайла, а таксама князі: трокскі Скіргайла, мсціслаўскі Лугвен, ноўгарад-северскі Карыбут. Саюз паміж дзвюма дзяржавамі ставіў на мэце і ўмацаванне іх, што па-ранейшаму існавала з боку Тэўтонскага ордэна. Разам з тым ВКЛ і Карона маглі праводзіць самастойную палітыку, мелі ўласную сістэму кіравання.

Канчатковая унія была зацверджана ІІ студзеня 1386 года ў Ваўкавыску. Тады Ягайла і атрымаў ад прадстаўнікоў Польшчы акт аб перавыбранні яго каралём польскім, а ў якасці жонкі Ядвігу. А ўжо 12 лютага таго ж года на з'ездзе польскай шляхты ў Любліне Ягайла аднагалосна быў выбраны каралём. Па прыбыцці ў Кракаў Ягайла праз тры дні са сваімі братамі Карыгайлам, Свідрыгайлам, Вігандам і баярамі прыняў каталіцтва. Жаніцьба ж яго адбылася 18 лютага 1386 года, а каранацыя прайшла 4 сакавіка 1386-га. Пасля яе Ягайла стаў Уладзіславам III.

І хоць пасля гэтага Вітаўт не адмовіўся ад барацьбы за вялікакняжацкі трон, саюз паміж Вялікім Княствам і Каронай быў даволі трывалым. Жыццястойкасць яго даказалі далейшыя падзеі на працягу XIV—XVII стагоддзяў, а пасля, як вядома, была заключана Люблінская унія 1569 года, вынікам якой стала ўтварэнне федэратыўнай дзяржавы.

Што да Крэўскай уніі, гэта акт, а таксама Віленска-Радамская унія 1401 года, што стала працягам Крэўскай, спрыялі ліквідацыі пагрозы з боку Тэўтонскага ордэна, а ў Грунвальдскай бітве 1410 года ён быў разбіты. Паспяхова стрымлівацца націск на ўсходзе на ВКЛ з боку Маскоўскай дзяржавы. Княства атрымала выхад у Еўропу, развівала дыпламатычныя і культурныя стасункі з яе дзяржавамі.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ВЕЧАРЫНЫ

# Засумавалі без балета?

Сёння ў сяброў і паклоннікаў Тэрпсіхоры — святочны вечар. Пачынае новы сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі. Мае адбыцца адзін з лепшых спектакляў — "Стварэнне свету". Цудоўнае "дзіця" маэстра Валянціна Елізар'ева, гэты спектакль, паводле тэатральных стандартаў, — ужо сапраўды доўгажыхар, але захаваў і маладосць, і здароўе, а з узростам набыў новых шматлікіх сяброў.

Апроч "Стварэння свету" на музыку А. Пятрова, у сцэнаграфіі Я. Лысыка, вераснёўская афіша, якая спакушала балетаманаў на мінскіх вуліцах яшчэ з лета, абяцае іншыя спектаклі, пастаўленыя мастацкім кіраўніком тэатра, запрошанымі харэографамі, а таксама маладымі айчыннымі творцамі. Дарэчы, сярод знаёмых назваў ёсць зусім свежая прэм'ера: увасоблены маладым балетмайстрам Наталляй Фурман (Кульган) адна-актовы твор Вячаслава Кузняцова "Макбет".

Дэбют нашага вядомага кампазітара ў жанры балета, як і дэбют харэографа на акадэмічнай сцэне, прыхільна сустрэла публіка, якой даволася патрапіць на прэм'еру, паказаную пры канцы мінулага сезона. Той, хто хоча пагглядзець беларускага "Макбета" ў музычна-харэаграфічным увасабленні, мае шанц зрабіць гэта 15-га верасня.

**Н. К.**

АДГАЛОСКІ

# Размазаць апанента?

***У "ЛіМе" (N 31 ад 4 жніўня) было змешчана інтэрв'ю з пісьменнікам Васілём Якавенкам "Хвароба Шумілава" — ці не выклік багам?" У матэрыяле ішла гаворка пра дыягназ хранічнай прамянёвай хваробы альбо сіндром хранічнай стомленасці і імуннай дысфункцыі. Нагадаем, што менавіта кандыдат медыцынскіх навук Валерый Шумілаў узяў на сябе адказнасць (апраўданую шматгадовымі даследаваннямі) устанаўліваць ва ўласнай урачэбнай практыцы менавіта такі дыягназ. Хранічнай прамянёвай хваробы няма ў класіфікатары Мінздрава. Хваробы, як лічаць чыноўнікі, няма, але насельнікаў Беларусі ўжо даўно называюць у замежжы "нацыяй са стомленымі вачамі". Упартае жаданне Шумілава супрацьстаяць чарнобыльскай навале з'явілася ці не галоўнай прычынай ягонага звальнення з мінскай паліклінікі N 12... Інтэрв'ю выклікала адпаведную рэакцыю. Сёння на лімаўскую публікацыю адгукаецца Раальд Левін — сябра Беларускага саюза журналістаў і Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.***

Што і казаць, Шумілаў — чалавек нялёгкі. Ён не саромеецца ў выразах і схільны да згушчэння негатыву ў сваіх непрыяцелях. Затое сяброў-таварышаў падае ў ідэалізаваным выглядзе.

Наша першае з ім знаёмства. У рэдакцыю акадэмічнай шматтыражкі ўрываецца сярэдніх гадоў мужчына, якому няма куды падзець лішкі энергіі. Наш невялікі пакойчык ледзь не распірае ад ягонага грамавога барытона.

— Шумілаў, — як мне падалося, аднымі губамі "малюе" калега прозвішча нечаканага візіцёра. Не паспеў я падумаць, што гэта мянушка, настолькі дакладна адпавядала "намаляванае" знешнасці наведвальніка, як ён працягнуў руку і адрэкамендаваўся:

— Шумілаў Валеры Мікалаевіч.

Во, мільганула ў галаве, фокусы прыроды: то ж трэба гэтак дакладна прыладзіць рысу характару да прозвішча продкаў.

У далейшым менавіта мне наканавана было апрацоўваць тое, што напісаў і даставіў у рэдакцыю доктар (не па вучонай ступені, а па роду дзейнасці, да працаўнікоў якой у побыце гэтак традыцыйна звяртаюцца) Шумілаў. Але вучоная ступень у яго была: кандыдат медыцынскіх навук.

Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу, што ў допісе Валерыя Мікалаевіча змяшчалася рэзкая крытыка пазіцыі шэрагу знакамітых медыкаў, якія, на думку Шумілава, знарок, вызваляючы сябе ад залішняга клопату, змякчаюць наследкі чарнобыльскай катастрофы на Беларусі. Па сутнасці, то быў пачатак зацяжных спрэчак, што, паводле нядаўна апублікаванага ў "ЛіМе" матэрыялу, перараслі ў сапраўдную вайну.

Ужо тады аргументы аўтара допісу ў большыні сваёй супадалі з маёй думкай. Але гэта, бясспрэчна, не магло яшчэ стаць доказам справядлівасці аўтарскіх абвінавачванняў. Тым больш што Шумілаў застаўся адданым сваёй манеры ўзнагароджваць, мякка кажучы, маргінальнымі характарыстыкамі апанентаў аж да надання ім "тытула" ворагаў народа.

Між іншым, "ворагам народа" даваліся нейкі час пабыць і мне, бо публікацыя матэрыялу па розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах затрымлівалася. Апраўдвацца перад Валерыем мне было не з рукі. Затое, калі матэрыял выйшаў у свет, ён ледзь не расцалаваў мяне. Надалей ён нязменна прыносіў мне свае карэспандэнцыі.

Такі вось імпульсіўны хлопец. Не трэба спяшацца асуджаць чалавека. Трэба знайсці ў сабе мужнасць адрозніваць павярхоўнае ад глыбіннага нават у апанента (Валерыя Мікалаевіча гэта таксама тычыцца). Глыбінная ж у Шумілаве адданасць клятве Гіпакрата, краевугольнаму прынцыпу: не нашкодзь. І калі Шумілаў робіць перабор у барацьбе з супрацьлеглым бокам, а для яго ў сілу тэмпераменту яна — заўсёды бойка, у якой не лічацца з чужымі балячкамі, то ён робіць гэта, маючы на ўвазе карысць тых, каго абараняе і для каго бачыць рэальную пагрозу. Маючым уладу трэба быць менш помслівымі, а больш памяркоўнымі, больш дальнабачнымі. І памятаць, што імя падабароных Шумілава — людзі, народ Беларусі, якому пакуль даводзіцца нясоладка ва ўмовах радыяцыйнай небяспекі, абвостранай малагрошоўем, дрэнным харчаваннем, немагчымасцю атрымання паўнацэннай медычнай дапамогі, дарагоўляй лекаў і г. д. І такому абаронцы шмат што даруецца.

Прачытаўшы лімаўскі артыкул, у якім аргументавана, на фактах паказана шматгранная карысная дзейнасць Валерыя Мікалаевіча Шумілава, не мог адмаўчацца. Нельга гэтак з чалавекам, які б'е трывогу, бачачы агач пажару, склікае грамаду, ды сам ужо ўзяўся за яго тушэнне.

Усе мы не без недахопаў. І ў Шумілава іх ёсць. Аднак не ў тым, што ён дзейнічае, што не дае спакою іншым. Гэта, наадварот, ягоная заслуга. Што ж тычыць хібаў, дык і камп'ютэр памыляецца. Але яго не выкідаюць, а выпраўляюць. І не забываюць пра ягоныя непераўзыдзеныя якасці, недаступныя астатнім, а выкарыстоўваюць іх.

Моцныя свету нашага, калі не довадамі, дык сілай улады могуць спляжыць, прымусіць заткнуцца кожнага, хто ім супрацьстаіць. Для таго існуюць розныя інтрыгі і прыёмчыкі, знаёмыя нам па нядобрай памяці недалёкіх часінаў. Адзін з такіх езуіцкіх прыёмаў — капанне ў брудной бялізне, а няма яе, дык не грэх зрабіць яе такой; падлоўліванне на асобных праліках і ўзвядзенне іх у ранг абсалюту.

А там — занясенне незаўгоднага ў "чорныя спісы", далей — у табар беспрацоўных пасля бясплённых пошукаў работы па спецыяльнасці, пазбаўленне кавалка хлеба і ўрэшце падзенне на дно жыцця...

Барані, Божа, Шумілава ад гэтых выпрабаванняў, што ўжо надараліся ў ягонай біяграфіі.

Мужайцеся, Валеры Мікалаевіч.

**Раальд ЛЕВІН**

АБСЯГІ

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## Шосты па ліку

Вялікай выставай карцін завяршыўся міжнародны пленэр маладых мастакоў, які праходзіў у абласным цэнтры ўжо ў шосты раз. У ім бралі ўдзел сем дзяўчын-студэнтак з Францыі, Аўстрыі, Германіі, Канады, а таксама выхаванцы Магілёўскай мастацкай школы і яе былыя выпускнікі. Удзельнікі пленэру працавалі ў Магілёве, у яго наваколлях, выязджалі ў старажытны Мсціслаў. Створаныя за час пленэру палотны былі прададзены пасля выставы ўстановам абласнога цэнтра... Дарэчы, пленэр быў арганізаваны па ініцыятыве абласнога штаба студэнцкіх атрадаў і Лігі дабрачыннай працы моладзі.

## Заплакала ікона

Як паведаміла абласная газета "Магілёўская праўда", у Чэрыкаўскай праваслаўнай царкве "заплакала" ікона Казанскай Божай Маці. Гэту ікону шэсць год таму прынесла ў толькі што адкрыты храм бабулька-прыхаджанка. Казанская Божая Маці, напісаная алеем невядомым мастаком, спачатку нічым не адрознівалася ад іншых абразоў. Але з нядаўняга часу на ёй пачалі з'яўляцца кроплі. Зараз да іконы працягваецца паломніцтва вернікаў і проста цікаўных.

## "Мастакі Прыдруцкага краю"

У Бялынічах выйшаў з друку буклет "Мастакі Прыдруцкага краю". Створаны ён намаганнямі Надзеі Палоннік — дырэктара раённага мастацкага музея імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі. У выданне ўключаны кароткія біяграфічныя звесткі, рэпрадукцыі работ акадэмікаў жывапісу Вітольда Бялыніцкага-Бірулі і Віктара Альшэўскага, акадэміка скульптуры Уладзіміра Панцялеева, а таксама Ларысы Журавовіч і Паўла Дзмітрыядзі. Першыя экземпляры гэтага цікавага выдання (пачатковы наклад — усяго 40 асобнікаў) хутка разышліся па школах і бібліятэках раёна. На выданне астатніх буклетаў пакуль няма сродкаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Вучань Бембеля

Каля 30 гадоў жыве і працуе ў Гродне скульптар Анатоль Салятыцкі — вучань народнага мастака Андрэя Бембеля. За гэты час майстар зрабіў дзесяткі адметных твораў. Сярод іх — помнікі Сяргею Прытыцкаму ў Вялікай Бераставіцы, Дзмітрыю Карбышаву ў Гродне, Іосіпу Філідовічу ў Дзятлаве, юным ахвярам фашызму ў Дамачове на Брэстчыне. У Гродне скульптар стварыў мемарыяльныя знакі і мемарыяльныя дошкі народнаму артысту Рыгору Шырме, акадэміку Юрыю Астроўскаму, хірургу Уладзіміру Міронычку. У планах Анатоля Салятыцкага, якому споўнілася 60 гадоў, — праца над мемарыяльным знакам воінам-пагранічнікам, якія загінулі ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны.

**НАШ КАР.**

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Выстава маладых

Днямі ў выставачнай зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў адкрылася экспазіцыя дыпломных работ выпускнікоў Гомельскага мастацкага вучылішча. Асаблівую ўвагу выклікалі работы Ірыны Бярнацкай, Ганны Курашовай, Кацярыны Бушынскай. Гэтыя імёны ўжо добра вядомыя, бо на рэспубліканскім конкурсе маладых мастакоў дзяўчаты атрымалі адпаведна Гран-пры, другое і трэцяе месцы.

**Алег АНАНЬЕЎ**

## 20 дзён натхнёнай працы

У Тураве адкрыўся міжнародны пленэр, прысвечаны старажытнаму гораду славянскай зямлі і слыннаму асветніку XII стагоддзя Кірылу Тураўскаму. З'ехаліся сюды мастакі з усіх абласцей Беларусі, з Санкт-Пецярбурга, Бранска, Чарнігава. Арганізавалі пленэр абласная арганізацыя Саюза мастакоў, абласное ўпраўленне культуры і Міністэрства культуры Беларусі. На працягу 20 дзён жывапісцы будуць пісаць карціны пра палескі край, яго прыроду, пра вядомых людзей гэтай цудоўнай зямлі.

## Першы набор

Сёлета ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны адкрылі новае аддзяленне "Літаратурная праца ў газетах і часопісах". На аддзяленне паступіла 25 будучых журналістаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

БРЭСТЧЫНА...

## Галерэя славутасцяў

У абласным цэнтры ствараецца мемарыяльная галерэя кіраўнікоў Берасцейшчыны, якія працавалі ў рэгіёне ад старажытных часоў да сённяшняга дня. У яе павінны ўвайсці партрэты знакамітых прадстаўнікоў славутых родаў Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, іншых слынных беларускіх інтэлектуалаў. Мяркуецца, што галерэя будзе аформлена ў будынку аблвыканкама.

**НАШ КАР.**

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Коласаўцы ўразілі шатландцаў

Белдзяржакадэмтэатр імя Якуба Коласа вярнуўся з фестывалю, які праходзіў у шатландскім горадзе Эдзінбургу, з першай прэміяй. Менавіта так быў ацэнены спектакль галоўнага рэжысёра Віталя Баркоўскага "Шагал... Шагал..." Коласаўцы ўразілі шатландцаў стылістыкай твора і ўласнай акцёрскай чуллівасцю. Аднак Віталь Міхайлавіч лічыць, што на віцебскай сцэне ён яшчэ не зрабіў такога спектакля, які б цалкам адлюстроўваў ягоныя эстэтычныя пазіцыі...

Трупа атрымала запрашэнне на гастролі па Вялікабрытаніі. А рэжысёр Баркоўскі паставіць "Макбета" ў каралеўскім замку Эдзінбурга. Днямі Віталь Міхайлавіч прыступіць да пастаноўкі п'есы "Францішка Уршуля Радзівіл" у гомельскім драматычным тэатры.

## Яблычны спас у Малых Алашках

На Шаркаўшчыне, у Малых Алашках, землякі знакамітага селекцыянера Івана Паўлавіча Сікоры рыхтаваліся адзначыць чарговае свята яго памяці. Прынамсі, як заўжды, — на яблычны спас. Яблыні былі яго асаблівай любоўю. Ды яшчэ бэз і ружы. Слава пра сад Сікоры грымела на ўсю Беларусь. У ім было больш за 500 сартоў яблык, 100 сартоў груш, 70 — сліў, мноства арэхаў. Яблыкі "Памяць Сікоры" цяпер называюць яблыкамі дзвацаць першага стагоддзя...

Сёння ў Алашках у гонар селекцыянера-самавучкі, які нарадзіўся 115 гадоў таму, створаны дом-музей і гадавальнік, у якім высаджаны новыя айчынныя сарты.

**Святлана ГУК**





## Вянок цярновы васількоў

**У сталічным кінатэатры “Змена” прайшла вечарына, прысвечаная 90-м угодкам з дня народзінаў паэткі Ларысы Геніюш. Ладзіла імпрэзу Мінская гарадская арганізацыя ТБМ. Нягледзячы на летні сезон, на сустрэчу сабралася ўдвая больш аматараў ад планаванага. Старшыня мінскай рады Алена Анісім пазнаёміла ўсіх з гасцямі — мастацтвазнаўцам Элеанорай Вецер і пісьменнікам Уладзімірам Арловым.**

**Спадарыня Элеанора падзялілася ўспамінамі пра сяброўства са знакамітай паэткай, распавяла пра сустрэчы, гутаркі. Слухачоў кранула аповед пра апошнія дні жыцця Ларысы Геніюш.**

**Уладзімір Арлоў запрасіў прысутных прайсціся па сцежках памяці пра самаахвярную жанчыну, якая ў найцяжэйшыя дні бальшавіцкага тэрору думала пра вольную Беларусь. Пісьменнік гаварыў пра мужнасць і палахлівасць, сумленнасць і крывадушнасць тых, хто акаляў слынную творцу лірычнага радка.**

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў распавёў пра свае сустрэчы з Геніюш, калі ён, малады яшчэ хлопец, захапіўся незвычайным лёсам непрызнанай тады паэткі, адшукаў яе ў Зэльве і, дзівячыся яе даверлівасці, слухаў яе шчырую споведзь.**

**У выкананні Алены Анісім і Людмілы Дзіцэвіч прагучалі вершы Ларысы Геніюш.**

**З асаблівай увагай слухалі прысутныя песні на словы паэткі ў выкананні старшыні рады ТБМ Заводскага раёна Пятра Русава.**

**Напрыканцы імпрэзы кінатэатр прапанаваў паглядзець дакументальны фільм “Вянок цярновы васількоў”.**

**Л. Д.**

## У пялёстках белай вішні...

**Пастаноўкай паводле п'есы Святланы Клімковіч “Балада пра белую вішню” завяршылі чарговы тэатральны сезон у Брэсцкім абласным тэатры лялек. Звяртаючыся да такой складанай тэмы, як пачуццё патрыятызму, гонару за сваю радзіму, ствральнікі спектакля ўсё ж рызыкавалі: як гэта ўспрыме глядач юны, магчыма, да падобных размоў не падрыхтаваны?**

**— Вось таму мы і ўзяліся за падобны матэрыял, — падкрэслівае рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Зміцер Нуянзін. — Кожны чалавек павінен вырастаць, ведаючы свае карані, тое, чым багата гісторыя яго краіны, і не быць раўнадушным да ўсяго таго, што адбываецца з ёй сёння. Таму, нам падалося, падзеі пры двары князя Юрыя, калі ягоныя войскі былі вымушаны змагацца і з татарамі на ўсходзе, і з тэўтонамі на захадзе, а за яго спінаю выспявала здрада родных і блізкіх, досыць выразна перагукваюцца з сённяшнім днём...**

**Баладная апавядальнасць пастаноўкі, магчыма, і крыху замаруджвае дзею, затое артысты тэатра з імпэтам уклалі свае акторскія здольнасці ў досыць яркія і вобразныя характары: Ігар Верста — мяккага, лірычнага, аднак высакароднага Васілька — брата Юрыя, а таксама таямнічага, усёведнага пра чалавечую прыроду Чараўніка, Алена Паляшэнка — уладнай, напорыстай ды няўрымслівай Агаты, Іван Герасевіч — непахіснага ў сваёй ганаровай справе абароны радзімы князя Юрыя і адначасна падступна-здраднага Усевалада, Лілія Верста — ціхай, лагоднай, але непадуладнай ніякім здрадніцкім памкненням Алесі... Дарэчы, удала ўпісалася ў агульны ансамбль і маладая актрыса Святлана Шутак, якая таксама выдатна справілася з апошняй роляй. Аздабляе спектакль адметна-”замкавая” сцэнаграфія і “рыцарскія” лялькі-марыянеткі Ніны Баяндзінай, ды гучыць адпаведна-настраёвая музыка Наталлі Туміловіч.**

**І. Х.**

## “Мастацтва”, N 7

**Нумар адкрываецца пачаткам артыкула У. Конана “Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесанса”. Пра Першы міжнародны тэатральны фестываль “На Волзе”, што праходзіў у горадзе Тальяці і ў якім прымаў удзел Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы расказвае М. Бартніцкая (“Перамога”). З В. Манаевым (“Бяда таленту — ствараць пустое”) гутарыць А. Ахметшын. Праблема змены пакаленняў у тэатры для дзяцей у цэнтры ўвагі Т. Арловай (“Вось бы тэатр з тварам Джульеты Мазіны...”) В. Янкоўская (“Атрымліваць асалоду ад сваёй прафесіі...”) узяла інтэрв'ю ў маладой салісткі Тэатра оперы А. Шведавай. Змешчаны артыкулы І. В'югінай “Ян Карловіч. Невядомыя старонкі творчай біяграфіі”, Н. Грамыкі “Вясновае суквецце мастацтва, ці Кожны твор мае права на існаванне”, У. Рынкевіча “Блакноты А. Астаповіча”, Л. Шылавай “Новае” аблічча БТ”, А. Бабковай “Пра бабскае царства без двукоссяў”, Д. Кароля “У ландшафту жаночы твар”, Н. Чырвонцавай “Мадэль гармоніі. Выцінанка як з'ява духоўнай культуры беларусаў”. Ёсць падборкі “Хроніка мастацкага жыцця”, “Старонкі календара: жнівень 2000”.**

ПАМЯЦЬ

# Кнігавыдавец, перакладчык і грамадскі дзеяч

3 верасня 2000 г. спаўняецца дзесяць гадоў з дня смерці Міхася Дубянецкага — чалавека, адданага праўдзе і сумленню, рыцара-змагара за лепшую будучыню Бацькаўшчыны, які стаў, па словах Васіля Быкава, адной з першых ластавак нашага новага нацыянальнага абуджэння.

Нарадзіўся М. Дубянецкі 4 сакавіка 1927 г. у шматдзетнай сялянскай сям'і, дзе панавала атмасфера чалавекалюбства і дабрыні, выхоўваліся працавітасць, любоў да роднай зямлі, да пазнання новага, нязведанага. Імкненне дзяцей да вучобы настойліва падтрымліваў бацька, Фёдар Ігнатавіч, чалавек па тым часе адукаваны, які сам з адзнакай скончыў народнае вучылішча. У свае няпоўныя сем гадоў Міхась стаў вучнем сямігадовай польскай школы ў роднай вёсцы, а ў 1938 г. быў накіраваны на вучобу ў адну з гімназій у Познані. У сувязі з пачаткам другой сусветнай вайны і далучэннем Заходняй Беларусі да БССР ён быў вымушаны спыніць навучанне і вярнуцца дамоў. Пасля вайны скончыў кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Пінску і працаваў настаўнікам пачатковых класаў, служыў у арміі, атрымаў вышэйшую адукацыю, быў намеснікам рэдактара ганцавіцкай раённай газеты “Сялянская праўда”.

З 1961 г. М. Дубянецкі працаваў у Мінску: спачатку рэдактарам выдавецтва “Беларусь”, затым загадчыкам рэдакцыі эканамічнай літаратуры, галоўным рэдактарам выдавецтва “Ураджай”. У 1968—75 гг. у якасці інструктара сектара друку ЦК КПБ актыўна садзейнічаў удасканаленню і развіццю кнігавыдавецкай і энцыклапедычнай справы ў рэспубліцы, быў ініцыятарам стварэння і выпуску шматтомных выданняў беларускай нацыянальнай літаратуры і фальклору. З 1975 г. ён быў адказным сакратаром — намеснікам галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, у 1979—86 гг. — дырэктарам выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

На гэтых пасадах найбольш поўна раскрыўся яго талент арганізатара кнігавыдавецкай справы, рупліўца на ніве беларускага Адраджэння. Добра ведаючы чыноўніцкую “кухню” партыйных органаў, Галоўліта, Дзяржкамвыда БССР і “слабыя” месцы ў сістэме цэнзуры, Міхась Дубянецкі прыкладаў шмат намаганняў для абароны ад яе лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў, адстойваў праўду і справядлівасць. Пасля доўгага змагання з партыйна-чыноўніцкім самавольствам у 1982 г. яму ўдалося дабіцца завяршэння выдання чатырохтомнага збору твораў Васіля Быкава і ўключэння ў яго забароненай ЦК КПСС аповесці “Мёртвым не баліць”. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1984 г.

З 1964 г. выступаў як перакладчык мастацкай літаратуры з рускай, польскай і украінскіх моў. У штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва” ён дэбютаваў перакладам з польскай мовы апавядання С. Жаромскага “Забыццё”. У яго перакладах на беларускую мову выйшлі кнігі В. Распуціна, Г. Цюцюнніка, зборнік украінскіх апавяданняў, “Блакадная кніга” А. Адамовіча і Д. Граніна і інш. Пераклады М. Дубянецкага пазначаны высокім мастацкім густам, глыбокім адчуваннем роднаснай стыхіі славянскіх моў.

У 1986 г. па стане здароўя М. Дубянецкі выйшаў на пенсію, але прымаў самы актыўны ўдзел у грамадскай дзейнасці. Летам 1988 г. па ініцыятыве гісторыка-мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры, якую ён узначальваў, была створана арганізацыйная група “Камітэт-58”. 19 кастрычніка 1988 г. старшынстваваў на Усебеларускім Устаноўчым сходзе прадстаўнікоў грамадскасці, які прыняў рашэнне аб утварэнні гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму “Мартыралог Беларусі”. Увайшоў у склад выбранага на гэтым сходзе аргкамітэта па стварэнні БНФ. Пасля гэтага ў рэспубліканскай прэсе яго шмат крытыкавалі як “самазванца”, “нефармала” і г.д. Улады выказвалі незадавальненне за ўдзел у падрыхтоўцы пісьмаў у ЦК КПСС супраць дзяржаўна-асімілятарскай палітыкі і практыкі ўлад, за неабходнасць адраджэння нацыянальных традыцый і духоўных, дэмакратычных каштоўнасцей беларускага народа. Па партыйнай лініі М. Дубянецкаму вынеслі вымову за “ідэйнае перараджэнне”, у гэтым жа годзе ён добраахвотна выйшаў з шэрагаў КПСС.



*З унучатым пляменнікам Аляксеем, 1983 г.*

Выхаваны пры таталітарызме, Міхась Дубянецкі раней, чым хто, зразумеў ягоную антыдэмакратычную і антычалавечую сутнасць, змог пераасэнсаваць многае і ўзняцца над самімі сабой, актыўна змагацца са злом, заступацца за чэснага чалавека-сабрата па жыцці і пяры, не баяўся ўзяць на сябе ўдар чарговага цэрбера-бюрактара, мог выйсці і не раз выходзіў насуперак партакратыі. Аб гэтым яскрава сведчаць яго дзённікавыя запісы, дакументальна-публіцыстычныя нататкі “Злое вогнішча”, апублікаваныя ў часопісе “Полымя”, іншыя матэрыялы з яго літаратурнай спадчыны.

**Станіслаў ПАЛЕСКІ**

# Дубянецкі



*У Барунах, 12.11.1989 г.*

Каб Ён нарадзіўся не ў 1927-ым, а, скажам, у 1887 годзе, то зусім няцяжка было б уявіць першыя старонкі Ягонага творчага жыцця. Гэтыя старонкі былі б віленскія, нашаніўскія, асветленыя прысутнасцю Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага, Максіма Багдановіча.

Не памятаю, ці называў Ён сябе адраджэнцам, але добра ведаю, што філасофія культурнага росквіту Бацькаўшчыны, выказаная праз Кнігу, была небам і зямлёю ўсяго Ягонага жыцця.

Ён маліўся на беларускую кнігу, як на ікону, да кожнага сігнальнага выдання дакранаўся гэтак жа, як ювеліры дакранаюцца да каштоўных камянёў,— з прафесійным хваляваннем і далікатнай радасцю.

Неаднойчы я назіраў у Ягоным выдавецкім кабінеце такі малюнак — Ён за сваім дырэктарскім сталом; на стале — попельніца, зеленаваты пачак цыгарэтаў “Палессе” і новыя кнігі.

— Вось, Лёня, маем раман Караткевіча “Чорны замак Альшанскі”...

Яго арыстакратычная далонь апускаецца на таямнічую вокладку рамана, як на вечка старажытнага куфэрка.

— А гэта, — Яго далонь апускаецца ўжо на іншае выданне, — зборнік апавяданняў Хрысціны Лялько...

— А гэта... Сёмухаў Рыльке...

Ён умеў размаўляць з кнігамі.

У такія хвіліны мне заўсёды ўяўлялася карціна Драздовіча “Друкарня Францішка Скарыны ў Вільні ў 1525 годзе” — дакладней, асноўны фрагмент гэтага шэдэўра: шляхетная постаць нашага Першадрукара.

Маё скарынаўскае ўяўленне аб ім не такое ўжо й адвольнае, — Ён шчыра жывіўся геніем полацкага падзвіжніка, а пачуццё гістарычнай пераемнасці было дадзена Яму ад нараджэння, ад паветра Яго палескага дзяцінства...

Ён гаварыў, што Кніга ніколі не раз'ядноўвае (вядома, Кніга ў скарынаўскім, купалаўскім разуменні, а не нейкае там ідэалагічна друкаванае смецце); Кніга заўсёды з'ядноўвае; вучыў мяне, маладога рэдактара: беларускае слова — гэта перш за ўсё вопыт эстэтычнай цярплівасці, узор мастацкага трывання і першая магчымасць нацыянальнага выжывання.

А найбольш мне запомнілася такая Ягоная развага: чытаць мы ўмеем; пісаць навучыліся; друкаваць кнігі — таксама... Засталося адно, самае неабходнае і цяжкае — навучыцца кнігі н а с і ц ь па гарадах і вёсках, каб не толькі ў кожным беларускім доме, але і ў кожным доме на Беларусі была родная кніга!

Таму зусім невыпадкова тое, што ў нашай прозе найбольш Ён цаніў змест навелы У. Караткевіча “Кніганошы”. Памятаеце: “...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць...” У сваіх лясах можна ўсё рабіць, а найперш — пад аховаю родных бяроз і хвояў насіць на радзіму кнігі. Ён любіў, як Біблію, гэты шчымлівы твор пра самаахвярнага асілка Кірылу Тураўца і тураўцовых мужных дзяцей, якія жывуць дзеля таго, каб на забранай Бацькаўшчыне чыталася і гучала беларускае друкаванае слова.

Выдадзенае, перакладзенае, уратаванае, абароненае і напісанае Ім (той жа выдатны дзённік,які быў апублікаваны ўчасопісе "Полымя") не падлягае рацыянальным падлікам. Усё, што Ён рабіў, не набліжалася да базарнай арыфметыкі, — а толькі да паэзіі, маралі, грамадзянскага рамантызму.

Пры жыцці Ён пераадолеў страх, і самую агідную яго праяву — страх перад уладаю, перад славутым ЦэКа.

І таму Ён з гасподы пераможцаў, а не пераможаных. І таму Ён знаходзіцца на той вышыні маёй памяці, на якой няма і ніколі не будзе месца духоўным жабракам...

Я прыйшоў у Яго выдавецтва ўлетку 1981-га.

Ён рыхтаваў да выхаду ў свет “Тутэйшых” Янкі Купалы (уяўляеце, у 1981 годзе!), факсімільнае выданне “Вянка” Максіма Багдановіча, марыў выдаць (раіўся з Караткевічам) “Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі” Вацлава Ластоўскага (дарэчы, зноў жа — у тым самым густасавецкім 1981-ым!).

Цяпер я разумею: Ён збіраўся даць новае жыццё творам сваіх старэйшых братоў па духу, дзеля чаго можна было рызыкаваць усім — спакоем, кар'ерай, здароўем, нават жыццём...

Ён памёр у верасні 1990-га.

Дзесяць гадоў я жыву без Яго, але адсутнасці Ягонай не заўважаю.

Хіба можна заўважыць адсутнасць людзей з нашаніўскае Плеяды!

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# Адзін дзень у школе

## ВАЧЫМА ДЫЛЕТАНТА

***Вы скажаце, дылетантам у школе не месца. Сапраўды так. Але ж і штодзённы правільны прафесіяналізм набівае аскому. Мы ж не робаты, а дзеці — тым болей. Ім хочацца адпачыць ад будзённа-аднастайнага, проста сустрэцца, пагутарыць са свежым чалавекам. Таму не думаю, што я тут сёння лішні...***

### Сваю душу на дошцы намалюю...

Ну, вось, здавалася б, нам ужо і няма пра што гаварыць. Паспрабуйце трэці ўрок запар біць языком аб зубы, асабліва калі на свае раскошныя тырады атрымоўваеш у адказ кароценькія рэплікі. Кароценькія, але дакладныя — цябе ўважліва слухаюць. Вось такі ў нас сёння дыялог з дзевятым "А" класам. Я — у чацвёртай Чашніцкай школе. "Вяду" ўрокі. Спачатку быў у дзесятых, а зараз вось высвятляем адносіны з дзевяцікласнікамі. Заканчваецца чвэрць, можна ўжо не хвалявацца за адзнакі, і настаўнікі, дзякуй ім, прадаставілі мне магчымасць сустрэцца з дзецьмі, шчыра пагутарыць, пазнаёміцца. Мы памяняліся месцамі з класным кіраўніком. Алена Фёдараўна Паўлоўская села за першую парту. І ёй таксама цікава паслухаць, балазе, наш "урок" па тэме, бо ў іх зараз павінна быць беларуская літаратура. І я расказваю дзецям пра пісьменнікаў, пра некаторыя факты з іхняга жыцця, якія не знойдзеш у падручніку. Я хачу, каб яны зразумелі, што пісьменнікі — таксама жывыя людзі са сваімі слабасцямі і, наадварот, з жывою душою. Як кажуць, нішто чалавечае для іх не чужое. А то часам, што граха таіць, падлеткам усё роўна, што Янка, што Якуб, якія намаляваны ў падручніку ледзьве не блізнятамі. Ведаючы пра чалавека, мне здаецца, больш пашаноўна будзеш ставіцца і да яго творчасці. Зараз моладзь вельмі мала чытае. Не выходзяць па-за рамкі школьнай праграмы нават выдатнікі. Кнігі падмяніў тэлевізар, але ж хіба можа тэлевізар падмяніць душу, укладзеную пісьменнікам у яго твор.

— А ў вас добры почырк? — нечакана пытаюцца дзевяцікласнікі.

Дзівакі, яны не ведаюць, што за дваццаць гадоў, якія пішу, почырк мой зусім "растаў" іператварыўся ў каракулі неўраўнаважанага чалавека.

— У мяне, дзеці, увогуле няма почырку, — адказваю.

— Напішыце, што-небудзь на дошцы, — не вераць яны.

Пішу: "Дарагія дзеці, я вас вельмі паважаю і люблю!"

Вось ён які — мой почырк... Як тут растлумачыць. Для творчага чалавека важна не каліграфія, а іншы почырк, па якім нашага брата, журналіста, пісьменніка, пазнае чытач. Так сталася, так, напэўна, было заўгодна Богу, што вось ужо дваццаць гадоў я пішу пра школу і настаўнікаў, а вобразы мілых майму сэрцу падлеткаў займаюць галоўнае месца ў маім літаратурным і не толькі літаратурным жыцці. Не ведаю, як складзецца мой далейшы лёс, але гэтыя дваццаць гадоў, калі мяне ніхто не адлучаў, дый не мог адлучыць ад школы, я лічу самымі шчаслівымі гадамі свайго жыцця. Я люблю і люблю вас, падлеткі. І гэтая любоў заўсёды знаходзіла водгук у вашых надзвычай ранімых і далікатных душах. Я шчаслівы, што вы заўсёды адказвалі мне ўзаемнасцю...

А ў дзевятым класе толькі яшчэ пачынаюць задумвацца над простымі ісцінамі: што такое каханне і дружба, што падабаецца дзяўчатам у хлопцах і наадварот. Калі тыя ж самыя пытанні на папярэднім уроку задаваў дзесяцікласнікам, тыя адказвалі значна смялей і нават прыводзілі канкрэтныя прыклады. Мне спадабалася шчырасць Ані Вішнеўскай і Марыны Гурко. Дзяўчаты не баяліся казаць пра хлопцаў ім жа ў вочы. А перахвалены імі Руслан Жылінскі (папросту Руслік) нават пачырванеў і не ведаў, куды падзець вочы, хаваючыся ад дзявочых кампліментаў. Дзяўчаты тым часам пераканаўча даводзілі, што ў хлопца павінна быць на першым месцы душа. Без душы мы становімся падобнымі да жывёл — усё тыя ж інстынкты...

А хлопцы з паралельнага сачканулі са свайго ўрока знарок, каб далучыцца да нашае размовы. Мне прыемна... Прыемна, але вось жа і здаў іх, не раўнуючы, парожнюю тару. Спадзяюся, настаўнікі нас зразумеюць і не будуць надта строгімі. Настаўнікі, вядома ж, нездарма прапанавалі сустрэчу спачатку ў абодвух дзесятых, а затым у лепшым з дзевятых класаў. Мне зразумела іхняе імкненне пахваліцца сваёю педагагічнаю ўдачаю. Гэта профільныя класы. У дзесятым "А" профіль прыродазнаўча-геаграфічны. Тут на больш высокім узроўні вывучаюць матэматыку, інфарматыку, геаграфію, біялогію, хімію, фізіку. Затое тут няма працоўнага навучання, рускай і беларускай моў. З дваццаці чалавек трынаццаць займаюцца на "чатыры" і "пяць". У дзесятым "Б" політэхнічны профіль. Вядома ж, профільнае навучанне — гэта не самамэта, асабліва зараз, калі пайшла тэндэнцыя ўраўняць шанцы выдатнікаў і звычайных выпускнікоў пры паступленні ў ВНУ. Не ведаю, мажліва, такое памкненне і кіруецца выключна добрымі намерамі, толькі ж ці прывядзе ўрэшце да дабра гэткі недавер да школы. Вучні фактычна пазбаўляюцца стымулу вучыцца. Выходзіць, можна ўвогуле не хадзіць у школу, не губляць час, а, калі ў тваіх бацькоў тоўстая кішэня, наняць сабе рэпэтытара, і ўсё будзе ў ажуры... Профільнае навучанне, згодна з новымі ўстаноўкамі, таксама, выходзіць, губляе сэнс. Але школа, думаю, яшчэ не хутка расстанецца з ім. І правільна зробіць. Павевы педагагічных вятроў змяняюць накірунак у залежнасці ад палітычных пор года, а школа агульнаадукацыйная была і будзе асновай у навучальным працэсе.

На базе ж дзевятага "А" класа ў чацвёртай Чашніцкай школе налета плануюць арганізаваць клас ліцэйны. Таксама даніна сённяшняй модзе. Што з гэтага выйдзе — пабачым. Пакуль жа перада мною звычайныя падлеткі, якія, аднак жа, умеюць аналізаваць, маюць свой пункт гледжання. Але заканчваецца самая доўгая чвэрць, і нам ужо не хочацца гаварыць пра школьнае. Надакучыла. З Сяргеем і Андрэем Падрэзамі, з Драздовым Юрам і Барадзейкам Вадзімам, з Мішам Бурмаком, пазнаёміўшыся бліжэй, гаворым зусім не пра школьныя ўрокі. Узгадваем блізкае лета, паходы, у якія хлопцы вельмі ж любяць хадзіць, узгадваем пра цікавыя вечары і пра шумныя гарадскія дыскатэкі. Ды ці мала пра што могуць расказаць падлеткі чалавеку, якому паверылі, якога палічылі сваім. Не толькі пра школу. Неўзабаве, звяртаючыся да мяне, хлопцы міжволі пачынаюць "з'ядаць" канчаткі. Яшчэ не на "ты", але ўжо і не на "вы" — дакладная прыкмета таго, што неўзабаве мы пазнаёмімся бліжэй, а мо і пасябруем. І хто ведае, мо перада мною зараз будучыя мае літаратурныя героі. У чацвёртай Чашніцкай школе мне падабаецца шукаць сваіх герояў, бо тут заўсёды творчая атмасфера, тут заўсёды рады мне і давяраюць. Помніце фільм "Доживем до понедельника" — шчасце, гэта калі цябе разумеюць...

### Мае транзітныя сябры

Жэнька, Андрэй і іншыя... Я ўжо даўно пра іх збіраўся расказаць, бо яны не проста звычайныя пасажыры заўсёды перапоўненага аўтобуса, на якім раніцою еду ў Чашнікі, яны — мае новыя сябры. Транзітныя сябры. Жэнька Палякоў, Андрэй Сляпцоў і яшчэ Казлоў Сяргей кожнай раніцы садзяцца на аўтобус у Дварцы. У вёсцы Бор да іх далучаецца Сяргей Жураўкін. Едуць хлопцы ў Цяпіна, у школу. Шумная кампанія падлеткаў — з імі не засумуеш. Дзякуючы ім і мая доўгая дарога да Чашнікаў становіцца карацейшаю. Хлопцы то горача абмяркоўваюць падзеі ўчарашняга дня, то анекдоты расказваюць ці якія смешныя гісторыі, а то, чаго граха таіць, ліхаманкава хапаюцца за падручнік і, захапіўшыся ім, бадзяцца ў што ні найцікавейшы дэтэктыў, не выпускаюць яго з рук да самага Цяпіна. Тады настае мой час здзекавацца.

— Ну што, шкаляры, вясна прыйшла, часу дома не хапіла да ўрокаў падрыхтавацца? Зноў, відаць, да дзяўчат бегалі? А я не Марат Казей, маўчаць не буду, усё мамцы раскажу... праз газету. Ды кіньце вы, хлопцы, сапраўды, не наеўся — не наліжашся.

Мне сумна, калі яны тусуюцца з падручнікамі, вось і "быкую". Але, на шчасце, так бывае не заўсёды, а часцей мае транзітныя сябры вольныя, як вешні вецер. Тады яны любяць паразважаць. Вялікія філосафы, не глядзі, што жывуць у аддаленай вёсцы, дзе, здавалася б, іхнюю філасофію няма каму слухаць, дый няма часу. Прыйдзеш дадому са школы, трэба па гаспадарцы ўправіцца, трэба дапамагаць бацькам, тут не да філасофіі. Вясковыя дзеці — гэта, як правіла, працавітыя дзеці, якія не ўмеюць марнаваць час па пусцяках. Яны і па жыцці больш мэтанакіраваныя, загадзя абдумваюць свой далейшы жыццёвы шлях, ведаюць, кім стануць. Вось і мае новыя знаёмыя, якія вучацца ў дзесятым і адзінаццатым класах, ужо задумваюцца пра будучыню. І вельмі цікава бывае слухаць іхнія разважанні, яшчэ не дарослыя, але ўжо і не дзіцячыя. Але ж яшчэ хочацца пахадзіць на галаве, пасваволіць і паблазнаваць. Затое і весела з імі ў дарозе.

Але аднойчы я разам з імі выскокваю ў Цяпіне, крочу да школы. Андрэй, у якога сёння надзвычай цяжкія ўрокі (біялогія, хімія), бедны, аж з твару мяняецца:

— Ды я ўсё забуду, пра што і помніў!

А хлопцам весела, пацешна. Смяюцца з сябра, кпяць:

— Усё, Андруха, двойкі табе сёння не мінаваць.




Андрэй іх слухае, ледзьве не зелянее, а я супакойваю:

— Ну, і панікёр жа ты, Сляпцоў. Ды хіба ж я кусаюся, а ці вораг табе. Сябры ж, здаецца. Не панікуй, усё будзе добра.

І вось мы ў школе. На ўроку ў адзінаццатым класе нязвыкла пуста. Тры вучні: мае знаёмыя Сяргей з Жэнем і Аня Сяржанава. Дзяўчына, па ўсім відаць, нядрэнна вучыцца, ва ўсякім разе, на ўроку гісторыі Беларусі выглядае мацней за хлопцаў. Аднак і хлопцы не маўчаць, нездарма ж яны ў мяне філосафы. Адным словам, настаўнік Георгій Васільевіч Сапоткін сёння імі задаволены. Нават Сярожа, які, відаць, не надта вялікі знаўца гісторыі, сёння стараецца. І настаўнік адразу ж гэта заўважае.

Задаволены Георгій Васільевіч і дзевяцікласнікамі. Хаця гэта ўжо зусім іншы кантынгент, шумліва-радасны і вясёлы, адпаведна ўзросту. Аднак і пад канец чвэрці не расслабіліся. Настаўніку не сорамна перад чужым у школе чалавекам.

З задавальненнем іду ў дзесяты на біялогію. Аднак жа і з'едлівы я чалавек. Іду... каб пабачыць, як напужаецца Андруха. Сляпцоў сабраўся, адказвае нармальна і ўжо не выглядае збянтэжаным. Даўно б так. Вам, хлопцы, трэба вучыцца стрымліваць сябе і не губляцца ў крытычных сітуацыях. Наперадзе — уступныя экзамены, незнаёмыя выкладчыкі, перамога той, хто здолее ўзяць сябе ў рукі. Жарты жартамі, а гэты фактар на ўступных экзаменах адзін з вырашальных. Добра ведае дзесяты біялогію. Асабліва на гэтым уроку падабаецца мне дзяўчаты. Я яшчэ не ведаю, што хутка пазнаёмлюся з... прэзідэнтам. А ў аўтобусе раніцою езджу з... прэм'ер-міністрам. Не кожны раз сустрэнеш прэм'ер-міністра ў аўтобусе. Так, у Цяпінскай сярэдняй школе створана свая вучнёўская дзяржава з прэзідэнтам Валянцінай Алісіевіч і прэм'ер-міністрам Яўгенам Паляковым. У гэтай дзяржавы ёсць свой дзень нараджэння — сёмага верасня і іншыя святы, асобна сярод якіх стаіць 19 мая — дзень Васіля Цяпінскага, чалавека, з іменем якога цесна пераплецена гісторыя і вёскі, і школы. Пра ўсё гэта мне расказа Валянціна Уладзіміраўна Каваленка, настаўніца біялогіі, класны кіраўнік у дзесятым, а таксама завуч школы па выхаваўчай рабоце. Пакуль дзеці будуць выконваць лабараторную работу, Валянціна Уладзіміраўна пакажа мне альбомы, дзе адлюстравана культурнае жыццё школы. А колькі ж у іх міністэрстваў! Тут што ні старшакласнік, то міністр, і кожны адказвае за свой участак працы. А пасля ўрока я наведаю музей. На мой погляд, адзін з самых сур'ёзных музеяў у сельскіх школах, ва ўсякім разе, сярод тых, якія мне даводзілася бачыць.

Дзівоснае пераўтварэнне адбываецца з маімі знаёмымі падлеткамі на ўроку фізкультуры. Куды знікае скаванасць, хваляванне. Тут яны — у сваёй стыхіі. Усе спартсмены. Што ні кажы, а спорт у падлеткаў — сапраўдны культ. Фізрук Анатоль Іванавіч Каваленка здолеў зберагчы ў добрым стане спортінвентар, зараз гэта сапраўдны скарб. Тут і свая маленькая трэнажорная зала, і лыжы, і мячы — чаго толькі няма. Час такі, што не надта папоўніш, свайго не меўшы кладзіся спаць не еўшы.

Напрыканцы дня ў школе праходзіць літаратуразнаўчая віктарына. І зноў жа, яе ўдзельнікі — мае сябры. Проста дзівішся іхняй актыўнасці. Нават не ведаеш, за каго "хварэць". Андрэй у адной камандзе, Жэнька ў другой. Дый "хварэць" не выпадае. Трэба быць аб'ектыўным. Я выбраны ў журы. Каманды выступаюць аднолькава роўна і даволі цікава, але... маглі б і лепей. Маглі б, каб не смяяліся самі з сябе. Артысты на сцэне смяяцца не павінны. Прыемна ўражвае, што на, здавалася б, шараговае школьнае мерапрыемства прыйшлі былыя выпускнікі. І для іх адразу ж знайшлася справа — адказваць за музыку. Яшчэ нядаўна Дзімка Якушэвіч таксама вучыўся ў гэтай школе, і быў, напэўна, не падарункам для настаўнікаў. Бо такія, як ён, шустрыя, падарункамі не бываюць. Але вось жа не забывае школы, заходзіць сюды часценька, балазе жыве побач. Здавалася б, ужо васемнаццаць, хутка ў армію, новае жыццё, новыя інтарэсы, не да ўрокаў, да дзяўчат цягне, а вось жа нешта забыўся ў школе Дзімка, калі так часта сюды вяртаецца.

Да аўтобуса — мо з паўгадзіны. Але і гэтыя апошнія хвіліны школьнага дня не застаюцца незанятымі. Хлопцы ідуць на... танцы. Не, вы не тое падумалі, не на дыскатэку — у школе працуе танцавальны гурток, і зараз тут самы "прыпар": рыхтуюцца да ўдзелу ў раённым конкурсе "Стракаты свет", куды павязуць сваю арыгінальную праграму. Наперадзе — канікулы, напоўненыя, напэўна, таксама сваім асобным грамадскім жыццём. Нават і адпачыць няма калі.

А адпачнём — у аўтобусе. Пастаянныя яго пасажыры па маршруце Чашнікі—Зазерыца, а мае транзітныя сябры зараз, пасля аднаго дня, праведзенага з імі ў школе, выглядаюць у маіх вачах зусім па-іншаму. Канкрэтныя пацаны.

Адзін дзень у школе і — цэлы свет пачуццяў.

**Уладзімір МІХНО**

ВІНШУЕМ!

# З любоўю да ўсяго зямнога

## Галіне КАРЖАНЕЎСКАЙ — 50

*Жыццё — рэч такая: хочаш таго ці не, а абавязкова напаткаеш свой юбілей. А юбілеі бываюць малыя і вялікія, а яшчэ так званыя — круглыя. Такі юбілей цяпер і ў нашай калегі, вядомай пісьменніцы Галіны Каржанеўскай.*

*Галіна Анатольеўна аддала "ЛіМу" нямнога-нямала, а пятнаццаць гадоў. А перад гэтым пасля заканчэння Янушкавіцкай сярэдняй школы, што ў Лагойскім раёне, вучылася на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вышэйшую адукацыю атрымала ў 1973 завочна, бо з трэцяга курса пачала настаўнічаць у роднай школе. А пасля выкладала рускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе пасёлка Плешчаніцы (а гэта таксама на Лагойшчыне), у 1980—1982 гадах працавала рэдактарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання.*

*З першымі вершамі ў рэспубліканскім друку выступіла яшчэ ў 1967 годзе. З таго часу і працуючы плённа: друкуецца рэгулярна ў перыёдыцы, выдае кнігі. Зборнікі яе паэзіі "На мове шчасця", "Мой сад", "Званы гадоў", "Жыла-была", "Вечны водгук", "Асенні мёд" засведчылі, што ў асобе Г. Каржанеўскай мы маем паэта яркага творчага даравання. Яе паэзія — надзіва шчырая, мілагучная, напоўненая каханнем і любоўю да ўсяго зямнога. Пра такую паэзію крытыкі звычайна кажуць, што яна жаночая, але больш правільнай будзе іншая выснова — паэзія Г. Каржанеўскай па-сапраўднаму жыццёвая. А жыццё — гэта каханне і расчараванні, трывогі і сумненні, усё тое, чым напоўнена душа чалавека, неабыякавага да таго, што адбываецца наўкола.*

*Плённа працуе Галіна Анатольеўна і ў галіне дзіцячай літаратуры, выдаўшы для маленькіх некалькі кніг вершаў. Важкія ў Г. Каржанеўскай набыткі ў галіне драматургіі. Не цураецца яна крытыкі, літаратуразнаўства. Хораша засведчыла аб сабе і як публіцыст.*

*Гадоў жанчыне звычайна не лічаць. Успрымаецца яна такой, наколькі выглядае. А Галіна Анатольеўна выглядае так, што застаецца толькі пазайздросціць яе маладосці. Таму паўвекавы юбілей для яе — гэта толькі дата ў біяграфіі, чым душэўны стан.*

*Тым не менш пражыта шмат. І верыцца — будзе пражыта яшчэ столькі і больш. А каб гэта і на самай справе было так, жадаем Галіне Анатольеўне далейшай маладосці, моцнага здароўя, аптымізму. А яшчэ ўсяго таго, чаго і можа пажадаць сабе жанчына!*

*Працягвай, дарагая Галіна Анатольеўна, і надалей размаўляць з усімі "на мове шчасця", каб "званы гадоў" у тваёй душы знаходзілі "вечны водгук", а ты сама магла засведчыць, што не "жыла-была", а жывеш і будзеш! Не забывай, што і "асенні мёд" — салодкі!*

**Лімаўцы**





*На здымках: У музеі Якуба Коласа (Пінкавічы); з Максімам Танкам, 1979 г.; выступленне ў Альшанскай СШ, злева — І. Чарота.*

*Фота Я. ПЯСЕЦКАГА і Ул. КРУКА.*




Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

## Дзівосныя, Тварэц, шляхі твае...

•

***Вы ўжо, птушкі,***
***збірацца пачалі?***
***Рабаціннем на неба ляглі,***
***Бо сезонаў скрануліся шалі,***
***Паступова пусцеюць палі.***

***Халадком прыцярушыла ночы,***
***З агурочніка сыплецца цвет.***
***(Гэтаксама і век мой жаночы***
***Да сканчэння ідзе неўпрыкмет.)***

***Штосьці сёлета ранняе жніва.***
***Усё саспела, ў запасы лягло.***
***У зеляніну лістоты тужліва***
***Уплятаецца тлену святло.***

•

***Не судзіце людзей,***
***не судзіце!***
***Мы усе, як мурашкі у жыце,***
***Абаронены толькі на час.***
***Будзе жніва,***
***і пройдуць па нас***
***І камбайн,***
***і капыты,***
***і ногі.***
***Нават самы прызнаны — убогі,***
***А пыхлівы — калека з калек,***
***І у кожнага — змераны век.***

***...Не падняць ацяжэлых павек —***
***Так шкада нас.***
***Дык што ж вы, ей-богу?!***

### *Развітанне са слабасцю*

***Безабароннасць прыйшла, як навала,***
***Выйшла з закуткаў душы***
***ці з падвала.***
***Безабароннасць я п е р а ж ы в а л а.***

***Свет мне здаваўся***
***чужым і варожым.***
***Тут мы канфлікты і дзелім, і множым.***
***То нас абдурваюць, то спатыкаемся,***
***Моцна шкадуем,***
***і слабенька каемся.***

***Тое, што дзесьці, стаіўшыся,***
***спала,***
***Дзіцем малым і смаркаценькім стала.***

***Хто вытра носік мне і пашкадуе?***
***Не пашкадуе, дык проста пачуе?***
***Дзе мне знайсці камізэльку,***
***ў якую***
***Плакаць дазволена?***
***Лягу, скручуся,***
***Шчыльна накрыюся — і засмяюся.***

•

***Дзень пачынаецца колерам зелянцовым,***
***І гэтае непрацяглае паўночнае ззянне***
***Абяцае стаць нечым***
***цікавым і новым —***
***Стратай, знаходкай, стрэчай, расстаннем.***

***Стратаў, дарэчы, баяцца я перастала.***
***Нельга валодаць тым,***
***што нам не належыць.***
***Дзень прывітала —***
***быццам бы дзялку зажала.***
***Ну, а наперадзе —***
***жыта і працы бязмежжа.***

•

***Перакрылі раку плацінай,***
***Адабралі свабоду плыць.***
***А не плыць —***
***Усё адно што не быць,***
***Зарастаць жамярой і цінай.***

***А наколькі заўжды бруіла,***
***То душою наперад мкне.***
***Найцяжэй (то вядома мне),***
***Калі выйсця не мае сіла...***

### *Шляхі*

***Сухое дрэва ценю не дае,***
***Сухое русла***
***пойму не напоіць.***
***Пустое вымя баба не падоіць.***
***Дзівосныя, Тварэц,***
***шляхі Твае!***

***Ты камень здольны ў воск***
***ператварыць,***
***Засохлую галіну — ажывіць,***
***А пустату напоўніць да краёчкаў.***
***Дзіравая закінутая бочка***
***І тая здольна квасам напаіць.***

***Сляпы — убачыць.***
***Чуцьме і глухі.***
***Усё нам на карысць,***
***і боль таксама.***
***Дарэмнай не бывае нават драма.***
***Я паўтару: дзівосныя шляхі!***

•

***У промнях, вечаровых і касых,***
***Лагоды столькі,***
***столькі даравання...***
***Я больш, прызнацца, разумею іх,***
***Чым трошкі самаўпэўненае ранне.***

***Бязжаласна высвечвае яно***
***Усе нашы недахопы і прабелы.***
***А паміж іх — сярэдняе звяно:***
***Цвярозы дзень.***
***І ён мне зразумелы.***

## Яе сад

***...Мой сад —***
***пачатак долі,***
***Непаспытаны плод.***
***Пакажа восень толькі,***
***Які я садавод.***

Гэтыя радкі я цытую з кнігі Галіны Каржанеўскай "Мой сад", якая выйшла амаль чвэрць веку назад — у 1976 годзе. Гэта была ўжо другая кніга паэткі, кніга, калі ад першай дзявочай летуценнасці і шчырай радасці маладосці пачалі прыходзіць філасофскія пытанні, роздум над лёсам уласным і лёсам Айчыны, пошук сябе ў гэтым вірлівым свеце.

Увогуле, вобраз саду праходзіць праз жыццё і творчасць не толькі Галіны Каржанеўскай. Сад — як лёс, сад — як жыццё, калі кволы гадаванец становіцца плодным дрэвам, калі пара цвіцення змяняецца халадамі, калі зноў надзея прыносіць вясну... Сад як вечнасць, як сімвал быцця вабіць паэта сваёй спрадвечнай таямніцай.

"Пакажа восень толькі, які я садавод"... Да восені ў Г. Каржанеўскай яшчэ далекавата, таму рана ўзважваць вырашчаныя ёй плады, хіба тыя, што паспелі ўжо, сведчаць: урокі садаводства не прайшлі дарэмна.

***Калі чалавеку чужому***
***Раптоўна ў парыве гарачым***
***Адкрыю душу без развагі —***
***Я набываю ці трачу?***

А гэта ўжо са зборніка "Званы гадоў", які з'явіўся на свет пазней. Цікава, што ў першых вершах паэтка не сумнявалася. Яна заяўляла: "у сабе самой сябе шукаю, вас... мае сябры..." Але ў пазнейшым сумненні ўсё ж чытаецца адказ, бо захаваўшы юначыя парывы, шчырасць і адкрытасць, адказаць можна толькі так, як падказвае душа.

***Гляджуся ў рухомыя склаўшыя дні —***
***Сябе выглядаю — былую — нібыта.***

Цікава, як паэт робіць падарожжа па уласных радках? З болем, шкадаваннем, сумам? З замілаванасцю, задавальненнем, асалодай? Як бы там ні было, для нас, чытачоў, гэта фантастычна цікавае падарожжа. Бы адкрытая кніга лёсу, і свайго таксама, якая гартаецца з трывогай і хваляваннем, пачуццём прыналежнасці да нечага загадкавага і таямнічага.

Гэтак я пераліставаў і згаданы ўжо "Мой сад", "Вечны водгук", "Асенні мёд"...

Сёння, калі закрэсліваць не чытаючы, не цікавячыся нават звонку, дасягненні тых, хто пачынаў трыццаць гадоў назад, становіцца ледзь не добрым тонам, як важна спыніцца, азірнуцца, і без залішняй экзальтацыі перагартаць кнігі і часопісы, угледаючыся ў твар пакалення, у твар роднай літаратуры, якая як тай сад, жыла і цвіла, нягледзячы на непагадзь, пладаносіла летам, выстойвала ў маразы, ажывала, адкідваючы сухое галлё, увесну...

***Яшчэ таму пакутліва не спіцца,***
***Што пагражае парасткам усім***
***Смяротны смерч дыханнем ледзяным***
***Ды шчоўкаюць жалезныя нажніцы***
***Садоўніка, што ад пачатку дзён***
***Садзіць не браўся, — вынішчае ён.***

Бачыце, зноў садоўнік... Як пастаянная нейкая сіла — то добрая, ласкавая, то жорсткая і бязлітасная.... І тыя ж дэкарацыі вечнага саду...

Шкадую, відаць, як і многія, што крытыкі нашы адышлі ад аналізу сучаснай паэзіі, спакушаючыся часам хіба на скандальныкі ці вэрхал аматараў біць у тазікі... А так не хапае паўнавартаснай карціны цэлага паэтычнага пакалення, цэлага перыяду нашай літаратуры, бо, на жаль, толькі юбілеі даюць падставу звярнуць увагу на рупна дагледжаныя, укаласелыя палеткі нашых сяброў, цікавых і харошых паэтаў. І сярод іх — светлы і прыгожы сад Галіны Каржанеўскай, дзе яна даўно ўжо умелы, дбайны і шчыры садавод.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Іван КАПЫЛОВІЧ

# ПАДЧАРКА

АПАВЯДАННЕ



мурыўшы адно вока, Юлік. Гэта ўжо ў яго звычка: калі размаўляе з кім, то абавязкова жмурыць адно вока, як бы стараючыся ўгадаць, што яму адкажуць.

— У цябе тры зяці, Юлік, а ты шукаеш памочнікаў. Як заколеш кабана, то яны тут як тут, і зваць не трэба, а калі што зрабіць, дапамагчы... — адказаў Максім. І спахапіўся: хіба ён, будуючыся, не прасіў Юліка дапамагчы?

— Хапае і зяцям, — умешваецца ў размову Волька, — вунь колькі яшчэ ўсяго на гародах! Трэба ў капцы картоплю схаваць, ад дзікоў спасу няма, буракі не выкапаныя дасюль, капуста не ссечана — не звезена, сена ў стозе на балоце...

На ўсёй вуліцы, лічы, толькі двое мужчын: Юлік ды ён, Максім. Ёсць яшчэ Іваньчык Сілін, але ён на ногі захварэў, па сваім двары ледзьве соўгаецца. Юліка зразумець можна: каго яму яшчэ прасіць парэзаць на дровы сухастой, калі не яго, Максіма?

— Хутка ты добрае забываеш, — з крыўдай у голасе кажа Юлік. — Калі ты зваў мяне, то хіба я аднекваўся?

— Знайшоў што спамінаць, — не маўчыць і Максім, — ён мне пра колішняе...

Але сумленне грызе Максіма, нядобра ён робіць, адмаўляючы Юліку. Але ж у яго тры зяці, здаравенныя бугаі,імі лес карчаваць можна, а ён знайшоў каго прасіць — яго, пенсіянера. Але, з іншага боку...

— Не мог ты, Юлік, адразу парэзаць іх, у лесе? Дык не, нацягаў сухастоін, а цяпер не ведаеш, як з імі ўправіцца. І я не ведаю. Як бы ў мяне самога работы няма. Кажанны дзянёк прорва ўсяго...

Юлік дадае абаротаў, мотаблок страляе чорным, дымам, кранаецца з месца.

Максім пераходзіць дарогу, апыньваецца ля калодзежа, зацята круціць калаўрот. Напоўніўшы вёдры, кіруецца ў хлеў да коней. Зглядзеўшы гаспадара, Гняды і Сіўка ціхенька іржуць, стрыгуць вушамі нецярпліва перабіраюць нагамі, Максім ставіць перад імі вёдры, а сам прастуе ў гуменца, бярэ пачаты мех аўса, нясе яго ў хлеў. Высыпае авёс у доўгае драўлянае карыта, збітае з дубовых плашак. Напіўшыся, коні прыпадаюць да аўса, смачна хрумкаюць, ад задавальнення раз-пораз форскаюць.

— Мае вы саколікі, мае вы памочнікі! — гладзіць Максім Гнядога і Сіўку па ільсняных шыях, расчэсвае ім грывы, злёгку б'е, нібы лашчыць, па шырокім крупе то аднаго, то другога. — Што без вас я рабіў бы? — пытаецца не то ў сябе, не то ў коней. — Загінуў бы я без вас, прапаў бы...

Раптам змоўк, задумаўся: а мо лепш трэба было б прыдбаць мотаблок? За ім не трэба так глядзець, як за коньмі. Вунь Юлік — звекаваў у трактарыстах, без паху саляркі яму і жыццё не жыццё. А ён, Максім, хіба не рабіў тое ж самае? Колькі калгасных машын перабыло ў ягоных руках? Але ён вось без коней не можа, хоць каня кожны дзень напаі, накармі, падсцілкі свежай падкладзі... Раней іх не дазвалялі мець у гаспадарцы, а цяпер вось набыў жарэбчыкаў у заезджага цыгана і не раскайваецца, бо коні спраўныя, працавітыя, і гною колькі даюць...

Напаіўшы, накарміўшы коней, кароў, авечак, Максім спыняецца сярод двара, глядзіць, быццам даўно не бачыў, на сваю хату. Бярвенні там-сям счарнелі, нават патрэскаліся. А, здаецца, паставіў яе не так даўно, мінула гадоў дзесяць з хвосцікам, калі ён перасяліўся сюды з хаціны, якую некалі наспех скідалі маці вясковыя мужыкі. Лес быў побач, адразу за гародам, дык мужыкі за лічаныя дні навалілі і навазілі танклявых бёрнаў на іхняе селішча. Яшчэ шмат хто з вясковых удоў-салдатак туліліся ў зямлянках, а яны ўжо ўзводзілі хаціну. Максім быў падлеткам, дапамагаў будаўнікам адно тым, што сцягваў абцярэбленыя галіны ў лаўжы і спальваў. Потым, калі хаціна ўжо стаяла, калі былі на месцы вокны-дзверы, рэзалі з асінавых плашак дранку на дах. Максім аббегаў паўсяла, каб хто памог нарэзаць дранкі. Пазваў і Моксікавага Юліка. Быў ён не нашмат старэйшы за Максіма, але ладна вымахаў дык вымахаў. Юлік падаваў дранку з-пад нажа Максіму, а Максім складваў яе на жэрдкі ў паветцы, каб хутчэй сохла...

— Глядзі, Максім, не забывай добрае, каб і мне, калі спатрэбіцца, дапамог, — падаючы яму "стружку", казаў Юлік.

— Які яшчэ з яго памочнік? — азвалася маці, збіраючы на падпал трэскі.

— А то не! — не пагадзіўся з ёю Юлік. — Год-другі — і ваш Максім жаніхайлам будзе. Хіба вы не ведаеце, што ён ужо заглядваецца на Тоціну Алену?

Максім зачырванеўся, бо тут жа былі гарбаты Мар'ян і Сымон з Данілам — Аленіны браты.

— Не перажывай, Юлік, я ў даўгу не застануся, — патрапіў што адказаць Максім...

Мінула з тае пары шмат часу. Максім вырас, адслужыў у арміі, вярнуўся дадому шафёрам, працаваў у калгасе на дабітым "газоне". Тады ён і задумаў будавацца, бо тая скіданая спехам хатка была малою, цеснаю, зімой не трымала цяпла, маснічыны ў падлозе прагнілі, са шчылін між імі вылазілі мышы і пацукі. І Максім марыў паставіць новую хату, а старую раскідае на дровы...

Спахопліваецца, бярэ вёдры, зноў ідзе да калодзежа, нясе ваду ў сенечкі.

— Ідзі паснедай, — зноў кажа жонка, — сыдзеш на ўвесь дзень — згаладаешся.

— Не хачу, — аднекваецца ён, бярэ ў рукі кашэль з канаплянай вочапкай, прастуе на вуліцу.

У гародзе ўбачыў маці. Як і раней, падымаецца додніцай і хапаецца то за адну работу, то за другую, хоць — якая ўжо там з яе работа. Маці старая-старая, ёй за восемдзесят, апошнім часам яна стала кепска бачыць, дрэнна чуе, але яшчэ патроху сноўдаецца.

— Чаму табе не спіцца? — пытаецца Максім.

— Авечкам зелля нарву, — маці, пэўна, не дачула, пра што спытаў сын, і нібы апраўдваецца, што яна вось такая старая, аглухла, слаба бачыць.

— Я ім ужо трохі ўкінуў сена, не галодныя яны, — адказвае Максім.

Але маці мала яго слухае: нагнулася і рве траву-касцяруху, трохі прывялую, пажоўклую. Нарве жменю, адкруціць карані з зямлёй і кідае ў лазовы дзіравы кошык.

Ён ужо амаль у канцы вёскі, каля высокай, разгалістай ліпы, што паўз самы плот на гародзе ў гарбатага Мар'яна. Вось адсюль, з гэтага селішча, дзе цяпер застаўся адзін Мар'ян са сваёй жонкай і сынам, здаецца, не так даўно Максім павёз на падводзе ў старую хату Алену — Мар'янаву сястру.

— Здурнеў ты, мой сыне, — гаварыла маці, калі дазналася пра тое, што ён сабраўся пасватацца да Тоцінай Алены. — У іх жа ўся сям'я сухотная, а ты... Хіба мала дзевак у сяле? Ты ў мяне не зломак, за цябе любая пойдзе, толькі пазаві.

Максім і сам сябе не разумеў. Хіба ён не ведаў, не разумеў, у якой сям'і вырасла Алена? Ён быццам і не заўважаў на першым часе Тоціну Алену, хоць да яе трох братоў наведваўся часцяком. Старэйшы, гарбаты Мар'ян, пчаляры́ў. На гародзе ў Тоці высокая, тоўстая сасна. На адну з яе галін Мар'ян з братамі ўзвалок калоду-вулей. У ім неўзабаве завяліся пчолы. Мар'ян з дымаром і драўляным вядром лез на сасну, адчыняў клін-накрыўку, пускаў у вулей дым. Пчолы ад дыму, пэўна, чмурэлі, не кусаліся, і Мар'ян даставаў з вулея і клаў у вядро бурштынавыя сцяльнікі мёду, які пахнуў ліпавым цветам і лугавымі ды ляснымі краскамі. Максім назіраў за Мар'янам знізу, з зямлі, думаў, што ён сам аніколі і нізавошта не стане пчаляром, бо дужа баіцца пчол, якія не раз кусалі яго, і на тым месцы, дзе пчала запускала сваё вострае, пякучае, як агонь, джала, ускокваў добры гузак, ён доўга і моцна балеў...

Мар'ян рабіў ездавым у калгасе, і Максім часцяком увязваўся за ім, каб пакатацца на падводзе. Бывала, паедуць на калгаснае поле, і Мар'ян укладваў віламі з доўгім, абшмуляным дзержаком снапы на воз, а Максім старанна ўтоптваў снапы, потым і ўціскаў іх разам з Мар'янам слізкім, доўгім драўляным рублём. Жыта яны звозілі ў калгаснае гумно...

Старая Тоця, Мар'янава маці, заўсёды, і летам, і зімой, доўга, без аддухі, кашляла, сплёўвала раз-пораз, і Максім бачыў, што адхарквалася яна крывёю. Гэтаксама заходзілася доўгім кашлем і яе старэйшая дачка Гэля. Дый сам Мар'ян часта кашляў да пасінення.

І не здзіўляўся ён, калі маці ўшчувала яго:

— Ад Тоці і дзеці заразу падхапілі. Ты гэтага таксама хочаш? Глядзі, Максімка, мяне не паслухаеш — шкадаваць будзеш...

Максім і не заўважыў, як хутка вырас, а разам з ім вырасла і малодшая Мар'янава сястра — Алена. Яны ўжо хадзілі ў сёмы клас, школа-сямігодка была ў суседняй вёсцы за Вялікім балотам. Бывала, вясною, калі ўсё балота ў вадзе, праз яго перабрацца можна было адно ў гумовіках, Максім казаў, каб Алена сядала на яго і ён перанясе яе з аднаго берага на другі...

— Надалабень ты ў мяне, сынок, ох, які надалабень! — не пераставала ўшчуваць яго маці, калі ён хваліўся, як з Тоцінай меншай дачкой адольвалі Вялікае балота. — Старэйшая Тоціна Гэля выйшла замуж, нарадзіла дзяўчынку, але яна й сама, і дзіця-немаўля хворыя на сухоты, і цяперака не вылазяць з беркулёзнай бальніцы пад Мазыром...

Як бы Максім і сам таго не ведаў. Усё ён добра ведаў, бо як не кожны дзень бачыўся з Аленай, з яе гарбатым братам, не вылазіў з іхняга двара-селішча.

Непрыкметна з худой, даўганогай дзяўчынкі-падлетка Лена стала чарнабровай прыгажуняй, і Максім, згледзеўшы яе, забываўся пра тое, што ўся яе сям'я хварэе на сухоты, што маці не перасціхае сварыцца на яго, каб ён і ў той бок не глядзеў, дзе гэтая Тоціна Алена. Хіба маці яму ўказ.

Зімою да Максіма сыходзіліся сябры-аднагодкі і яны вучыліся скакаць: кружылі польку, кракавяка, кадрылю. Не бяда, што не было ніякай музыкі. Хто-небудзь з хлопцаў напяваў:

***Свеціць месяц, свеціць ясны,***
***Свеціць белая зара,***
***Прыйдзі, прыйдзі, дзеванька,***
***Да майго двара.***

Пад гэтыя словы яны скакалі да ўмору, пакуль не з'яўлялася Максімава маці ды надавала ім наганяю:

— Я ўчора прыбрала ў хаце, адшаравала дзеркачом падлогу, а вы тутака натапталі, награзекалі...

Максім і яго роўня ўжо збіраліся ісці служыць у войска, а як гэта не паскакаць на провадах сяброў з якой-небудзь вясковай рагатухай? Вось і вучыліся скакаць-таньчыць...

Калі гулялі ягоныя провады, Максім увесь вечар скакаў з Тоцінай Аленай і дапытваўся: "Ты будзеш пісаць мне ў армію? Будзеш чакаць мяне?"

Стаяла ціхая, цёплая восень, Алена была ў доўгай белай сукенцы, на нагах былі белыя туфлі, якія яна купіла спецыяльна да гэтага вечара, бо позву з ваенкамата Максім атрымаў загадзя і пра тое ведала ўся вёска. Алена даўно ўжо не хадзіла ў школу, пасля сямі класаў пачала працаваць тэхнічкай у школе.

— Хіба твая маці дазволіць табе мяне ўзяць? — Лена кружылася з ім у танцы, не зводзіла з яго сваіх чорных, як у цыганкі, вачэй.

Максім слухаў яе і не разумеў: адкуль яна ведае, што маці супраць таго, каб ён меў нешта з Аленай? Ён жа пра тое нідзе ні слова, ні паўслова. Але ж хіба ў вёсцы што-небудзь ад каго ўтоіш?

— Адслужу, то яна мо па-іншаму на ўсё паглядзіць, — выказаўся шчыра Максім.

— Няхай твая маці надта не баіцца... Хіба я каму вешаюся на шыю? — даводзіла Алена. — Каб я сапраўды хварэла на сухоты, то хіба мяне ўзялі б тэхнічкай у школу? Я ўжо не адзін раз правяралася ў раённай паліклініцы і нічога ў мяне не знайшлі.

Максім слухаў і не верыў пачутаму: як жа гэта так? Вунь і Мар'ян высах у трэску. І Сымон з Данілам не-не, ды і падлечваюцца дзесьці ў санаторыях. Вядома ж, ад якой хваробы лечацца... І адкуль напала гэтая трасца на старуюТоцю, на яе дзяцей? Пэўна, усё праз тое, што іхні бацька не вярнуўся з вайны, і ўсе яны доўгі час жылі-туліліся ў халоднай, сырой зямлянцы, дзе ніколі не было сонца, не хапала паветра. Да таго ж і галадавалі, хадзілі ў чым папала ў любую пару года, у чунях з аўтамабільнай камеры... Але ж меншую Тоціну дачку, выходзіць, гэтая хвароба абмінула?

— Я думаю, Алена, калі мы пажэнімся, ты з маёй маці паладзіш, — чамусьці сказаў яшчэ Максім на сваім вечары-провадах.

— Хіба я з ёю сварылася? — у вачах у Алены бліснулі слёзы, і яна лёгенька змахнула іх вышытаю па беражках белаю насовачкаю.

Максім тады падумаў, што Алена — добрая, спагадлівая дзяўчына, якая ой як нагаравалася, пакуль трохі паднялася на ногі ды пайшла на работу. Значыць, і жонка з яе, напэўна, будзе такая, пра якую ён і марыць.

Служыць Максіму давялося за палярным кругам, на паўночным флоце. Праўда, марскую форму ён насіў,а мора бачыў толькі з берага, бо служыў у берагавой ахове. У доўгім аўчынным кажуху з аўтаматам Калашнікава з адамкнёным штыхом ахоўваў ваенныя склады. За палярным кругам зімою дня няма, усё ноч і ноч, і добра, калі месяц на небе, то хоць трохі бачна, а калі месяца няма, дык хоць вока выкалі, працягні перад сабою руку — і не ўбачыш...

Адслужыўшы і вярнуўшыся дадому, Максім быў поўны шчасця ад таго, што адслужыў, вярнуўся не ездавым, як выпраўляўся ў войска, а з пасведчаннем шафёра-прафесіянала, што набыў у сваёй роднай часці ўжо на апошнім годзе службы. Шчаслівым Максім адчуваў сябе яшчэ і таму, што Алена дачакалася яго, ні за кога не выскачыла замуж, хоць ведаў ён з лістоў маці і сябрукоў, якія часам пісалі яму, што да Алены падбівалі кліны хлопцы з суседніх вёсак. Ды не проста падбівалі, а нават і засылалі сватоў. Аднак Алена была верная свайму слову — чакала яго... З тых самых лістоў ведаў Максім і пра другое: Аленіна сястра Гэля памерла, а яе дзіця цяжкахворае.

— Рыхтуйся, у гэтую суботу пасватаюся, — сказаў Максім ці не ў час першай пасля ростані сустрэчы з Аленай.

— Не ведаю, Максім, — чамусьці разгубілася Алена.

— Мо ты перадумала? Калі перадумала, то не хітруй, кажы, як на духу, — жартам, але быццам і ўсур'ёз дапытваўся Максім.

— Ты што, Макс? Нічога я не перадумвала, але... Твая маці, па-першае... Дый дзіця Гэліна... Я дала слова Гэлі, што дагледжу яе дачушку, дапамагу ёй стаць на ногі.

— Ух ты, ах ты! Мая маці зробіць так, як я скажу, а мяне ты ведаеш. А вось што дала слова Гэлі... Правільна зрабіла, я з табою згодзен — хто ж, калі не мы з табою, выгадуем яе дзіця?

Пасля гэтых ягоных слоў яна мацней прытулілася да яго, прылашчылася, ціхенька прамовіла:

— Я ведала, Макс, што ты такі, я ў табе не памылілася.

Ідучы ў сваты, Максім сказаў маці:

— Усё, мама, хопіць па мне ўбівацца! Іншай нявесткі ў цябе, апроч Тоцінай Алены, не будзе.

— Я, сынок, нічога і не кажу. Рабі, як табе хочацца, — глытаючы слёзы, прамовіла маці.

Максім бачыў і разумеў, што маці кажа адно, а думае зусім іншае...

Неўзабаве згулялі вяселле, і Алена перабралася да Максіма.

Як ні выхадны, Алена ногі ў рукі — і на мазырскі шлях, на папутку, каб дабрацца барзджэй у Будава, у санаторную школу-інтэрнат, дзе расла-гадавалася, а заадно і лячылася Гэліна дзяўчынка. Вярталася адтуль Алена позна ўвечары і хвалілася:

— Яна ўся ў свайго бацьку, хоць бы якая кропелька ад маці, як знарок. — Алена пазірала на Максіма, дадавала:

— Ведаеш, Макс, што я вырашыла?

— Што?

— Запішу я Гэліну дзяўчынку на сябе, няхай яна будзе маёй дачкою. Ты не супраць?

Ён чамусьці захваляваўся, затрывожыўся, і гэты не схавалася ад Алены.

— Раз табе так хочацца, раз ты ўжо вырашыла, нават не параіўшыся са мною, то запісвай, а як трохі падрасце, падлечыцца, адужае, акрэпне, то забяром яе да сябе, так? Хіба ёй у нас будзе горш? Усё-такі яна табе не чужая, дый мне...

Максімава маці, праўда, такой навіне не абрадавалася, і аднойчы, калі Алена выправілася на работу, не змоўчала:

— Хіба я, сынок, супраць таго, каб Гэліна сіраціна гадавалася ў нас? Але ж дзіця цяжкахворае... У цябе будуць свае дзеці, ты хочаш, каб і яны хварэлі?

— Маці, Алена кажа...

*(Працяг на стар. 12)*

АСОБЫ

***Віктар МАНАЕЎ — заслужаны артыст рэспублікі, адзін з самых знакамітых і папулярных акцёраў сучаснага беларускага тэатра. У гэтым годзе споўнілася дваццаць год з дня яго прыходу ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Менавіта на гэтай сцэне сыграны яго першыя ролі: Адуванчык у "Радавых" А. Дударава, Мікіта ў вадэвілях "Ажаніцца — не журыцца" М. Далецкіх і М. Чарота, Жадаў у "Даходны месцы" А. Астроўскага, Валерыо ў "Валенсіанскіх вар'ятах" Лопэ дэ Вегі і іншыя. Акцёр запомніўся многім у такіх фільмах, як "Людзі на балоце" (Алёша Губаты), "Давай пажэнімся" (Юрка), "Чужая бацькаўшчына" (Міця)... Нягледзячы на тое, што В. Манаеў не любіць здымацца ў кіно, кожнае яго з'яўленне ў кінакадры — падзея. Напрыклад, цяжка цяпер уявіць кінастужкі Н. Гаркуновай "Мой пачатак" і "Несыграную ролю" без непаўторных манаеўскіх Шагала, Башмачкіна, Гогаля.***

***І ў паўсядзённым жыцці В. Манаеў застаецца прыцягальным і не падобным на іншых: мяккім, добразычлівым, рамантычным. Думкі акцёра выклікаюць шчыры інтарэс да яго асобы.***

# Віктар МАНАЕЎ: "Кожная роля патрэбна — як паветра..."

— З самага пачатку майго творчага шляху мне заўсёды шанцавала, — расказвае **В. Манаеў**. — Вучыўся я на лялечнага акцёра, хаця ўвесь час марыў аб драматычнай сцэне. Нават цэлы год працаваў у лялечным тэатры, калі не паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут, і быў зачараваны лялькамі, людзьмі, якія мяне акружалі. Скончыўшы лялечнае аддзяленне, стаў працаваць у самым знакамітым драматычным тэатры Беларусі. Хаця, магчыма, сённяшняя драматычнае мастацтва не стаіць вышэй лялечнага і па маштабе, і па глыбіні, і па сваёй выразнасці. Год працы ў лялечным тэатры многаму навучыў: адчуваць сябе ў прасторы спектакля, уменню бачыць сябе збоку — лялечнік заўсёды назірае за сваім вобразам, кантралюе яго. Існуючая ў лялечным тэатры адасобленасць, мера ўжывання ў вобраз, магчыма, усё гэта і дапамагло прыйсці толькі "да свайго" на драматычнай сцэне. Калі паставіць усіх маіх герояў у адзін рад, то яны, магчыма, камунебудзь пададуцца дзівакаватымі і нават крыху недарэчнымі. Але я іх усіх люблю і беражліва адношуся, як лялечнік адносіцца да сваёй лялькі. Усе мае персанажы існуюць у канкрэтнай прасторы, да іх нібы можна дакрануцца рукой. Для мяне яны рэальныя і па-сапраўднаму жывыя.

**— Віктар, што на ваш погляд з'яўляецца галоўным у творчым лёсе акцёра: шчаслівы выпадак, рэжысёр, ці, магчыма, уласны моцны характар?**

— Мне здаецца, што ў акцёрскім лёсе многае з'яўляецца галоўным. Іншы раз рэжысёр становіцца тым самым выпадкам. Не апошняе месца належыць і ўласнаму характару. Трэба ўвесь час быць гатовым сыграць сваю самую галоўную ролю. Трымацца, калі ў творчасці наступаюць паўзы. Не здавацца. Умець цярпець, верыць і чакаць — гэта вельмі важна. Я не баюся сказаных слоў, таму што ўсё выказанае праверана на сабе. Не сумняваюся, што ўсё абавязкова прыйдзе, калі чалавек гэтага вельмі хоча і пры гэтым не шкадуе сіл, якія накіроўвае на дасягненне жадаемага выніку. Гэта таксама як і ў звычайным жыцці: калі мы верым, што мы патрэбны, што без нас нельга абысціся, то мы нечакана становімся патрэбнымі, неабходнымі і незамянімымі...

**— Мне прыгадваецца наша першае інтэрв'ю з вамі. Вы толькі прыйшлі ў Купалаўскі тэатр, прайшла прэм'ера "Радавых" А. Дударава. Помню, як вы усхвалявана гаварылі аб спектаклі, як былі захоплены сваім Адуванчыкам і акцёрскаю прафесіяй... А што для вас сёння — "іграць на сцэне", чым з'яўляецца для вас кожная роля?**

— Да тэатра і маёй прафесіі ў мяне паранейшаму ўсё тыя ж трапяткія адносіны. Можа, хто-небудзь з калег усміхнецца, але я не саромеюся любіць Тэатр. І не саромеюся гаварыць пра гэта. Праўда, шкада, што ляціць час. І вось ужо сёння я падзяляю сваю творчую біяграфію на два дзесяцігоддзі. На жаль, я пачаў разумець, што, магчыма, ролю не заўсёды будзе многа. Не хочацца гаварыць прыгожыя словы, але на самай справе, любая роля для мяне — гэта свята. Яна патрэбна мне, як паветра... Кожны выхад на сцэну — таксама з'ява. Вельмі хочацца быць патрэбным у тэатры. Рэжысёрам, у першую чаргу. Мне здаецца, гэта не толькі маё пажаданне, але і жаданне кожнага акцёра. Артысты вельмі залежныя людзі. Магчыма, пры нашай прафесіі, усё жыццё трэба ўмець чакаць. Усе мае больш-менш значныя ролі з'яўляліся неяк нечакана. І тое, што лёс звёў мяне з Мікалаем Пінігіным і я сыграў у васьмі яго спектаклях — гэта таксама было падаравана лёсам...

*Калі ў тэатры паказваюць пастаўленыя Пінігіным "Тутэйшых" Я. Купалы, "Ідылію" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Касцюмера" Р. Харвуда, публіка ідзе менавіта "на Манаева", захапляючыся яго самаадданасцю, цудоўнай пластыкай, яркімі, нечаканымі фарбамі ў зменлівых знешніх і ўнутраных малюнках непадобных адзін на аднаго персанажаў.*

— Тое, што ўсе мае спектаклі апошніх год звязаны менавіта з рэжысёрам Мікалаем Пінігіным, не стала выпадковасцю. Мне цікава працаваць з ім. Ды і не толькі мне, але і маім калегам. Гэты рэжысёр любіць акцёраў. Вельмі дарагім для нас з'яўляецца спектакль "Тутэйшыя". У гэтым годзе адзначаем дзесяцігадовы юбілей "Тутэйшых". І ў новым сезоне абавязкова спадзяёмся яго сыграць. Няхай нават у крыху змененым саставе, таму што мяняецца час, многія артысты хварэюць, пакідаюць тэатр і гэты свет. Тыя ж, хто застаецца, старэюць, але галоўнае, да чаго мы імкнёмся на працягу доўгіх год жыцця спектакля, — захаваць дух першаступеннай задумы і ўнутранае жыццё купалаўскіх вобразаў.

*"Тутэйшыя" Я. Купалы прагучалі надзвычай сучасна і па-тэатральнаму відовішчна, дзякуючы арыгінальнай рэжысёрскай задуме М. Пінігіна і вынаходніцкаму мастацкаму афармленню Б. Герлавана. Памясціўшы персанажаў у вымушанае батлеечнае існаванне (на працягу ўсяго дзеяння яны, нібы лялькі-марыянеткі, мітусяцца паміж касцёлам і праваслаўнай царквой), пастаноўшчыкі надалі сцэнічнаму дзеянню самыя розныя адценні — ад пабытавага да гумарыстычнага, нават скамарошага,ператвараючы асобныя мізансцэны ў адкрытую сатыру. Поспех "Тутэйшых" быў абумоўлены і тым, што галоўную ролю ў спектаклі бліскуча, віртуозна выконваў Віктар Манаеў.*

*Сёння адна з любімых роляў Манаева, — Іван у "ARTe" Я. Рэза.*

— З асаблівым пачуццём іду на кожны спектакль "ART". Іграем мы яго з Сяргеем Жураўлём і Ігарам Забарам на самых розных пляцоўках: у Доме афіцэраў, клубе Дзяржынскага, на купалаўскай сцэне. І усюды гледачы яго вельмі цёпла прымае, слухае кожную фразу неяк прыцішана, нібы затаіўшы дыханне. Мы нават не спадзяваліся на такі вынік. П'есу Ясміны Рэза і рэжысуру Мікалая Пінігіна я б назваў жорсткімі па форме, непрыхарошанымі ніякімі пастановачнымі эфектамі. У спектаклі задзейнічана толькі тры акцёры, няма актрыс, якія заўсёды ўпрыгожваюць тэатральнае відовішча. У дадзеным жа выпадку на сцэне — толькі мужчыны і тэкст, які трэба слухаць і разумець...

*У "ARTe" "зорны" акцёрскі ансамбль, амаль дзве гадзіны працуе на адзіным трапяткім дыханні, распавядаючы гледачу пра звычайнае, чалавечае: складаныя ўзаемадачыненні, крыўду, смутак, дружбу, якую так цяжка займець і тым больш зберагчы на працягу дваццаці гадоў — ледзь не цэлага жыцця. Абаяльны, сціплы Іван Манаева прыцягвае сваёй далікатнасцю і выхаванасцю. Акцёр узрушвае залу незвычайнымі пераходамі ад аднаго стану свайго героя да другога: ад замкнёнага ў сабе, маўклівага да эмацыянальнага, устрывожанага, трапяткога. У Іване Віктара Манаева адначасова ўжываюцца і дарослы чалавек, які пакутуе, і мілы пакрыўджаны хлапчук, якому, як і ўсім астатнім, хочацца пяшчоты і разумення.*

— На працягу дваццацігадовага тэатральнага жыцця мне давялося працаваць з іншымі цікавымі рэжысёрамі: Валерыем Раеўскім, Андрэем Андросікам, Рыдам Таліпавым... Вельмі ўдзячны Рыду Таліпаву, які прапанаваў мне амаль дзесяць год таму назад сыграць Музыканта ў "Кантрабасе" П. Зюскенда, ролю ў той час для мяне нечаканую, непадобную на тыя, якія я ў асноўным іграў на купалаўскай сцэне. У адрозненне ад іншых рэжысёраў Рыд Сяргеевіч убачыў ува мне не толькі выканаўцу характарных роляў, але і акцёра, здольнага сыграць сапраўдную чалавечую драму... Мой герой з "Кантрабаса" мне вельмі блізкі і дарагі. Нам абодвум большую частку свайго жыцця даводзіцца праводзіць на сцэне, існаваць у свеце, часта прыдуманым намі і наогул уяўным. Але для нас, акцёраў, музыкантаў, людзей многіх творчых прафесій, менавіта гэты свет з'яўляецца самым рэальным і неабходным...

*Тонкая ігра Віктара Манаева ў "Кантрабасе" заваражвала гледача. Яго герой быў чалавекам замкнёным, адзінокім, ранімым, да ўсяго яшчэ — безнадзейна закаханым ў балерыну, якая нават не ведала аб яго існаванні. Малады акцёр быў надзвычай кранальным і шчырым у даволі складанай, глыбока псіхалагічнай ролі. У сваіх пяшчотна-філасофскіх маналогах Манаеў данесіў да гледача не проста драму адзінокага чалавека, а сапраўдную трагедыю многіх творчых людзей, вымушаных плаціць лёсу за свой талент, за сваю выключнасць, так званую абранасць, па самай высокай цане...*

**— На працягу дваццацігадовага творчага жыцця вам пашчасціла працаваць з цікавымі рэжысёрамі, іграць на самых розных сцэнах. І ўсё ж тэатр у вашым жыцці адзін — Купалаўскі...**

— Сапраўды, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы — гэта мой адзіны і самы любімы тэатральны калектыў. Нават назву гэтага тэатра я заўсёды вымаўляю з асаблівым хваляваннем. Яго ўтульныя сцэны захоўваюць нейкую асаблівую аўру. Магчыма, таму, што на яго сцэну выходзілі цудоўныя акцёры-асобы — Глеб Глебаў, Лідзія Ржэцкая, Барыс Платонаў, Ірына Ждановіч... Сёлетні сезон 2000/2001 гадоў з'яўляецца для купалаўцаў асаблівым, таму што гэты сезон юбілейны — васьмідзесяты. Менавіта 14 верасня 1920 года быў адкрыты наш тэатр, першы прафесійны тэатр на Беларусі. З юбілейным сезонам вельмі цесна звязана адна з нашых назваў на афішы — "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча". Спектакль створаны паводле п'ес Міровіча, якія ішлі ў "Інтымным тэатры" Санкт-Пецярбурга ў 1914 годзе і прысвячаецца знакамітаму майстру, аднаму з першых мастацкіх кіраўнікоў тэатра, у гонар яго 120-годдзя. У "Інтымным тэатры..." мне вельмі цікава працаваць з маімі калегамі Аленай Сідаравай, Зояй Белахвосцік, Віталем Рэдзькам, Аляксандрам Лабушам і Аляксандрам Гарцуевым.

*У трох, зусім непадобных і незвязаных адна з адной карцінах "Інтымнага тэатра...", акцёрам даводзіцца іграць самыя нечаканыя вобразы, імгненна, здзіўляючы гледача, "маляваць" процілеглыя характары. Пры гэтым усе занятыя ў спектаклі выканаўцы дэманструюць сапраўдны прафесіяналізм. В. Манаеў застаецца пазнавальным, нягледзячы на частыя змены касцюмаў і грыму, на працягу ўсяго спектакля: вытанчаным і элегантным у першай карціне "Які нахабнік!", какетлівым, напорыстым і абвааражальна-лісліўвым у "Тагасветнай дысцыпліне"; разважлівым, памяркоўным і адначасова здольным на самыя ашаламляльныя метамарфозы ў заключнай частцы "Не раўнуй!"*

*Калі назіраеш за ігрой В. Манаева ў любым спектаклі, яшчэ і яшчэ раз не толькі захапляешся ім, знаходзіш нейкія новыя, асаблівыя фарбы ў яго цудоўнай, натхнёнай гульні, але і прыходзіш да вядомых ісцін. Ва ўсе часы, пачынаючы ад вытокаў тэатральнага мастацтва да нашых дзён, тэатру заўсёды быў патрэбен сапраўдны Акцёр. Акцёр-асоба, які можа адкрыць перад гледачом цэлы Сусвет. Чым нас здзіўлялі і да сённяшніх дзён працягваюць здзіўляць лепшыя пастаноўкі нашага тэатра? Майстэрствам акцёра. Яго ўменне слухаць, пакутаваць, адчуваць, кахаць, плакаць і радавацца. І таму найрад ці можна спрачацца з тым, што самае высокае пасланне, якое імкнецца ў глядзельную залу, — заўсёды ідзе ад Акцёра.*

**Вераніка ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

*На здымку: сцэна са спектакля "Кантрабас".*



## “Творы” Хведара Ільляшэвіча

**У Маладзечне выйшлі з друку асобнаю кніжкай творы Хведара Ільляшэвіча. Вялікая заслуга ў гэтым Міхася Казлоўскага — бібліяфіла, літаратуразнаўца і калекцыянера. Гэта Міхась парупіўся сабраць лепшыя паэтычныя творы Хведара Ільляшэвіча пад адну вокладку. У кніжку складальнік уключыў таксама і апавяданне “Танго “Нактурно”.**

**Папулярны заходнебеларускі паэт 30-х гадоў Хведар Ільляшэвіч меў Божы дар. Ён скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага універсітэта. У 26 гадоў стаў магістрам філасофіі за дысертацыю “Друкарня дома Мамонічаў у Вільні”. Вершы і празаічныя абразкі пачаў пісаць рана. Друкаваў іх у “Студэнцкай думцы”, “Беларускай Ніве”, “Крыніцы”. У 1922 годзе ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік “Веснапесьні”. Пасля свет пабачылі яшчэ два — “Зорным шляхам” (1932) і “Захвარбаваныя вершы” (1936). Пры жыцці ў Хведара Ільляшэвіча выйшла яшчэ адна кніжачка пра жыццё і літаратурную творчасць Ядвігіна Ш. Вось і ўсё, што паспеў зрабіць паэт за свае 38 гадоў (загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Германіі ў 1948 годзе). Я, вядома, не лічу ягоных шматлікіх апавяданняў, крытычных артыкулаў, рэцэнзій і перакладаў.**

**Шэсцьдзесят гадоў у Беларусі не выдаваліся творы Хведара Ільляшэвіча, асабліва яго паэзія. А гэта быў здольны паэт, шчыры лірык:**

*Шырыня-прастор!*
*Добры вечар!*
*Я твой сын-арол,*
*Буйны вецер.*
*Шыбану да зор*
*Ў бесканечнасць!*
*Шырыня-прастор,*
*Добры вечар!*

**У кнігу “Творы” Хведара Ільляшэвіча, што выйшла ў Маладзечне, складальнік яе Міхась Казлоўскі ўключыў лепшыя вершы паэта з трох паэтычных зборнікаў, а таксама некалькі эміграцыйных вершаў і твораў другой паловы 30-х гадоў. Эміграцыйны цыкл — вельмі сумны, у ім адчуваецца туга, якую перадаў паэт вершамі аб прыродзе, аб раскіданай маладосці, аб сябрах і сваяках:**

*Усё часцей я цябе ўспамінаю,*
*мой родны, мой мілы браце.*
*Ці і мне не пара ў вырай,*
*ў краі светлыя выбірацца.*
*Як жывы, устаеш ты часта —*
*і ў даждлівай асеннай вуліцы*
*Капялюша крыло намоклае*
*і ўсмешка нейкая сумная.*
*Мне цяпер яна так зразумелая,*
*я і сам усміхаюся гэтак.*
*Можа мы былі нешчасьлівыя,*
*Што сталіся інтэлігентамі.*
*Усё часцей я цябе ўспамінаю,*
*мой родны, мой мілы браце.*
*Ці ня знак гэта мне, што болей*
*Я з табой не змагу спаткацца.*

**Адначасова ў эміграцыйных вершах ёсць іскрынкі надзеі на светлую будучыню, надзея, што ў Беларусі “зацвіце заўтра новая маладосць”. Дарэчы, роднай Беларусі Хведар Ільляшэвіч прысвяціў шмат сваіх паэтычных радкоў. У адным паэт не баіцца за сваю Радзіму, бо “яна працоўная, прачнулась”, у другім — “зноў, Беларусь, у тваіх безьбярэжжах восень элегію ціха складае”, у трэцім — “з-над палёў, дзе дым сьцелюць Беласток і Супрасль, аж да слуцкіх пшаніцаў калосьсе шуміць”, у чацвёртым — “жніўнёвая ўжо Беларусь адцьвіла у кустох сьчырванелых”, а ў пятым ужо — “доля твая — недацьветы, Беларусь дарагая мая!”..**

**У гады вайны Хведар Ільляшэвіч узначальваў “Беларускае аб’яднанне ў Беластоку”, супрацоўнічаў з газетай “Новая дарога”. Але пісаў ён значна менш, чым у 20—30-я гады. У “Новай дарозе” з’яўляліся сяды-тады яго артыкулы пра М. Забэйду-Суміцкага, Ф. Аляхновіча, У. Жылку і іншых беларускіх дзеячаў культуры. Але і пад імі ён не ставіў свайго прозвішча, а падпісваў крыптанімам М. Д. У 1944 годзе Хведар Ільляшэвіч назаўсёды развітаўся са сваёй Радзімай, пераехаўшы жыць у Заходнюю Германію, дзе праз чатыры гады яго не стала.**

**Выхад у Маладзечне маленькай кніжачкі “Твораў” Хведара Ільляшэвіча — гэта даніна яго светлай памяці.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ВІНШУЕМ!

# Тамашу ЛЯШОНКУ — 65

*Ляшонак Фама Васільевіч (Тамаш Ляшонак) нарадзіўся 5 верасня 1935 года на Глыбоччыне. Усё жыццё пісаў вершы, але саромеўся іх пускаць на волю. Духу хапіла толькі ў вельмі сталым узросце, дзякуючы шчасліваму выпадку — сустрэчы з паэтам Міколам Федзюковічам, які пайшоў ужо ад нас назаўсёды.*

*У выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 1995 годзе выйшла кніга вершаў “Запознены дар”, у 1997 годзе — “Сустрэча” — дадатак да часопіса “Маладосць” і сумесная праца з кампазітарам Міколам Яцковым, зборнік песень “Гронка бэзу”.*

*Віншуем Фаму Васільевіча з 65-годдзем і зычым яму поспехаў у жыцці і творчасці.*

Тамаш ЛЯШОНАК



## Не страціў веры

•

***Каб ад жыцця галоўны прыз***
***Ні ў чым не меў заганы,***
***Патрэбна сутнасці абрыс***
***Займець намаляваны.***

***І я з юнацтва спрабаваў***
***Да дна спасцігнуць***
***сутнасць,***
***Ды не туды я скіраваў***
***Гадоў вясновых рупнасць.***

***Плаціў даніну шмат разоў***
***Няўдачам і пакутам,***
***І за язду без тармазоў***
***Быў біты тоўстым прутам...***

***Шукаю Арыядны ніць,***
***Бо шчэ не страціў веры,***
***Што ўсё ж паспею адчыніць***
***Да ночы ў сутнасць дзверы.***

•

***Скрабе душу шчымлівы боль,***
***Апанавала скруха,***
***За вокнамі слату і золь***
***Мяняе завіруха.***

***Няма мінулага цяпла,***
***Гасцінец ямны, коўзкі,***
***І быльнягамі зарасла***
***Сцяжынка ў дом бацькоўскі.***

***Ужо забыты пакрысе***
***Спатканні, золак росны,***
***Маю буслянку на страсе***
***Раскідаў вецер злосны.***

***Ідзе гульні апошні тайм***
***Пад сумны шум чароту***
***І ўжо сябры чакаюць там,***
***Адкуль няма звароту.***

## Адзінота

***Ты прыходзіш вельмі часта***
***ў мае сны***
***Гэта добры падарунак***
***ад вясны,***
***Толькі я хачу адзначыць***
***мімаходзь:***
***Лепш наяве ты штодня***
***ка мне прыходзь.***
***Я насіў табе чарэмху***
***тыдні два,***
***Ад яе ў цябе балела***
***галава.***
***Потым смела тын суседа***
***пералез***
***І цягаў штодня бярэмам белы бэз...***
***Вось і лета адыходзіць:***
***час бяжыць...***
***Я ж не змог тваёй увагі***
***заслужыць.***
***Скрушна мне,***
***бо адцвітае ўжо язмін,***
***Я ж і сёння па-ранейшаму, адзін.***

## Шлях да ісціны

***Да ісціны складаныя шляхі***
***Агорваў я праз час і праз сябе,***
***Таму і паэтычныя радкі***
***Ляглі страфой***
***маршчынак на ілбе.***

# ПАДЧАРКА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9)*

— Што ёй застаецца рабіць? Шкада ёй сіратцінкі, от яна і выдумляе... Жывіце, сынок, як вам лепш. Мне б яшчэ хоць трошкі здароўя, каб даждацца ўнукаў...

Мінула трохі часу, і Максім пачаў рабіць падмурак пад новую хату. Алена тым часам ужо гушкала ў калысцы іхнюю першую дачку і чакала другое дзіця.

Усё ладзілася ў Максіма на першым часе яго жыцця з Аленай: узводзілася новая хата, пакрысе, паціху-памалу, але вянок за вянком — і зруб узнімаўся, вышэй і вышэй, ужо і крокваў, падсачэў, у ім з’яўляліся вокны, дзверы, насцілалася падлога з сасновых, што пахлі смолкамі, борам, жоўта-васковых дошак...

І дзеці нараджаліся адно за адным, бо неўзабаве іх у яго было трое, і ўсе дзяўчынкі. Самая першая ўдалася ў яго, а тая пайшлі па жонцы. Першая — бландзінка, з васількавымі вачамі, а апошняя дзве — як цыганкі: чарнавалосыя, чарнавокія, смуглатварыя.

Гэліна сіратцінка Анютка таксама было ўжо з імі, сваю хваробу яна, здаецца, адолела ў санаторнай школе, расла на завідкі ўсім прыгожанькай, здаровай, і гэта надта цешыла Алену дый самога Максіма, бо цяпер Анютка для яго таксама дачка. Як яму, здавалася, нават было больш шкада, чым сваіх родных. І чым болей Анютка падрастала, выцягвалася, станавілася дарослаю дзяўчынай, тым больш яна, напэўна, разумела, што Максім ёй чужы, яна — ягоная падчарка, хоць ён і добры да яе, ласкавы, ніколі ніводнага разу не насварыўся на яе, не пакрыўдзіў і не абразіў. І хіба гэта няпраўда, што цяпер Максім для яе — бацька, няхай не родны, але ж бацька, бо родны, хоць і жыў на той самай вуліцы, дзе і яна, але хіба хоць адзін раз ён, праходзячы міма, спыніўся, загаварыў з ёю, папрасіў прабачэння, што вось ён жывы, здаровы, а яна, яго родная дачка, гадуецца ў чужых людзей? Каб ён хоць раз спыніўся, загаварыў з ёю, прылашчыў яе, прыгарнуў да сваіх грудзей, пашкадаваў, то хіба ёй не было б лягчэй жыць на гэтым свеце? Не разумела гэтага Анютка, і заўсёды, калі бачыла роднага бацьку, які праходзіў міма, чамусьці мянялася ў твары, злавала і, калі бацька аддаляўся, свой настрой яна не хавала:

— Я, здаецца, гатова разарваць яго на кавалкі.

— Нельга так, Анютка! — заспакойваў яе Максім. — Хіба табе дрэнна жывецца? Мы цябе любім, ты нічым не абдзелена, так што...

Анютка на гэта — ні слова, ні паўслова. Яна моўчкі кіравалася ў хату, спынялася каля сцяны, на якой у пазалочанай рамцы вісеў партрэт яе маці...

Агледзецца, здаецца, не паспеў Максім, як выгадаваліся яго родныя дзеці, якіх у яго ні многа ні мала — пяцёра: чатыры дзяўчынкі і самы апошні, самы меншы — сын. Дочкі ўжо замужам, маюць сваіх дзяцей. А сын нядаўна вярнуўся з арміі, падаўся ў Мазыр, жыве там дзесьці ў рачным порце. Максім назбіраў трохі грошай і аддаў сыну, каб той купіў сабе хоць які-небудзь дамок, бо як жыць, не маючы свайго кутка? Тым больш, што сын тым часам і ажаніўся ўжо. Словам, за сваіх родных дзетак Максім як быццам спакойны, хоць яны і жывуць хто дзе, у іх, здаецца, усё, як у людзей.

А вось у Анюткі лёс не склаўся, і праз тое Максім як сам не свой. Не пашэнціла Анютцы з замужжам. П’янчуга яе муж, несусветны п’янчуга, і Анютка прапёрла яго, засталася ў аднапакаёўцы ў Мазыры з дзвюма дзяўчынкамі-падлеткамі. Максім кожны раз, бываючы ў Мазыры, абавязкова завітае да Анюткі, навязе ёй розных хатніх гасцінцаў, смятаны, тварагу, масла, свежанінкі...

— Біць цябе няма каму, Анютка, — глядзячы на Анюціных дзяўчынак, якія ласуюцца ягонымі гасцінцамі, кажа Максім. — Навошта ты прагнала з сельшча мужыка? Піў ён... А хто сёння, скажы ты мне, не п’е? Я таксама выпіваю.

— Ты, бацька, часам хоць і вып’еш, але ні сям’і, ні работы не цураешся, а маё гора... Зусім мазгі адпіў. Яго ўжо нідзе на работу не бяруць, ён з самага ранку шукае не работу, а расол з-пад капусты ці піва...

Слухае Анютку Максім і яго сэрца поўніцца нечым такім, ад чаго яму добра, спакойна, бо Анютка, бачыш ты, заўсёды з любоўю называе яго бацькам. Помніцца, калі яна выходзіла замуж, дык у той вечар да іх завярнуў яе родны бацька. Стаў у парозе, як скамянелы, пазіраў то на дачку, то на яе мужыка і быццам язык пракаўтнуў, быццам мову яму адняло.

— Праходзь, Сцяпан, садзіся, пасядзі з намі, у нас сягоння такая радасць — Анютку замуж выдаём, — наблізіўся да яго Максім.

Але той — ні з месца. Зіркаў на дачку, на гасцей, напэўна, чакаў, што і Анютка яго запросіць, ды тая быццам і не заўважала яго, глядзела кудысьці ўбок. І ён, пастаяўшы трохі, крута развярнуўся і — ходу назад.

— Чаму ты яго не пазвала? — сурова, але стрымана спытаў у Анюткі Максім. — Ён жа твой родны бацька, як ты так магла?

— Ага, родны... — толькі і вымавіла Анютка і горка, няўцешна заплакала.

Тыя яе словы як нажом разанулі Максіма па сэрцы, яны аж дасюль звіняць у яго вушах, і заўсёды, як убачыць Анютку, думае, што яна затаіла ў глыбіні душы на роднага бацьку злосць, яна, мабыць, знаць яго не хоча, а вось яго, Максіма, называе бацькам, а сваю родную цётку Алену — маткай... Сапраўды, каб не Алена, каб не ён, Максім, то што было б з Анюткай, ці выжыла б яна, ці вылечылася б ад сухотаў, ці стала б маці?..

А ён тым часам ужо дзед, другі год на пенсіі. І ўсё б нічога, жыць пакрысе можна, але трывога за Анютку, за яе дзяўчынак не пакідае яго ні на адзін дзень. Як і тое, што Алена не можа памірыцца з яго маці. Жонка быццам не можа дараваць ягонай маці, што яна не хацела, каб ён пажаніўся з Аленай. Калі тое было, а яна ўсё яшчэ помніць. А маці ўжо старая, нездалшчая і, каб не слухаць нявестчыны папрокі, кошык у рукі — і ці ў лес па чарніцы, ці ў гарод ірваць зелле, балазе, у іх у хляве коні, каровы, качкі, куры-гусі, авечкі — зелля не набрацца...

Стаіць каля старой ліпы Максім, і згадкі пра мінулае вярэдзяць душу, то накочваюцца, то адкочваюцца.

З глыбіні двара паказваецца гарбаты Мар’ян. На ім дзіравы, без аніводнага гузіка чорны халат, падперазаны старой вузкай папружкай, на галаве рыжая, без вушэй, зімовая шапка, на нагах літыя, з высокімі халявамі, гумовікі, а ў руках — кароценькі, плецены з конскага хваста, бізун. Мар’ян як быў ездавым у калгасе, так усё ў ездавых аж дасюль. Ужо ў калгасе і коней даўно няма, мо якія чатыры здыхлыя і засталіся, але Мар’ян з дня ў дзень запрагае сваю пару і развозіць па кароўніку сілас, падкормку, падсцілку. Некалі Максім шкадаваў яго, што яго не любілі дзеўкі. Але Мар’ян не застаўся бабылём, ужо больш як два дзесяткі гадоў жыве з Волькай Кацярынінай, у якой муж загінуў на лесапавале; у Мар’яна з Волькай дарослы сын, які адслужыў войска і вярнуўся да бацькоў, жыве з імі, робіць у калгасе на калёсным трактары.

— Куды гэтак рана? — пытаецца Мар’ян.

— Пашкробаю у Навусце, мо якога казляка падыму, — адказвае Максім.

— Не баішся гэтых кюры, каб яны гарам гарэлі? Кажуць, што ў нашых лясах, дзе баравіны, столькі рацыі...

Слова “радыяцыя” ў іх мала хто гаворыць, найболей кажуць прасцей — “рацыя”.

— Ой, колькі таго страху! Ды я за апошнія гады пераеў грыбоў — сушаных, смажаных, вараных, і хоць бы хны — жыву!

Мар’яну, пэўна, хочацца сказаць, што дарма ён, Максім, харахорыцца, не беражэцца, бо вунь ужо нейкая шышка ўскочыла на галаве і хіба гэта на дабро, — але ён маўчыць.

— Ладна, я пагробся, — заканчвае Максім размовы з Мар’янам, паварочваецца, прастуе ў той бок, дзе лес, дзе Навусце, дзе знаёмыя, аббеганыя яшчэ з дзяцінства грыбныя баравіны.

# “Прасвятая Божая Маці, памажы нам жыценька жаці”...

## ВОБРАЗ ЖНІВА Ў ЛЕГЕНДАХ, БЫЛІЧКАХ, ЗАМОВАХ, ЗАПІСАНЫХ СУПРАЦОЎНІКАМІ ВЕТКАЎСКАГА МУЗЕЯ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

***І што мы можам сказаць пра жніво? Жніво — не толькі сагнутыя спіны жанчын пад спёкай на бясконцым полі, не толькі “царыца” з верша Янкі Купалы. А гэта яшчэ і своеасаблівая прастора са сваімі боствамі і нячысцікамі, са сваімі радасцямі і жахамі, са сваімі пытаннямі і адказамі. Пытаннямі зусім нечаканымі, якія ў іншы час і ўзнікнуць не могуць...***

### Першы зажон

Першы зажон — магічны. Выканаўцам яго абіраецца рытуальна чыстая жанчына. Звычайна дзяўчына альбо ўдава.

Першы зажон знаходзіцца пад апякунствам боскіх сілаў. Па народных уяўленнях, яму папярэднічае зажон, што зрабіў Ісус Хрыстос альбо Божая Маці.

Але спярша гучыць песня: “Прасвятая Божая Маці, памажы нам жыценька жаці...”

“Першы зажон каліcь ніхто не дзелаў перва. Мацер Божжа дзелала зажон. Прыдзеш на палоску: ляжаць каласкі ў адзін бачок, і сцежачка скрозь усю змену поперак. Цяпер брыгады, а тады пляцы былі. З пляца пасылалі жэншчыну акуратную, чысценькую, што б яна іздзелала зажон хоць на адной палосцы, штоб яна першая начала снапок. Штоб была чыстая ўборка, штоб чалавек не парэзаў рукі, штоб не забалеў, штоб было ўсё добра — вот для гэтага дзелалі зажон. А як дзелаў абы-хто, так бывала такое жніво, што людзі і сярпамі рэзалі рукі, і косамі — ногі. А як чыстая, харошая, жэншчына зажне, чысценька пройдзе жніво, акуратнае. Усе пяюць, радуюцца”.

“Гасподзь зажынаў. Вот пойдзем жаць на паласу. Паласа пасеяна. У нас называецца “сядзіба”: па тры галюкі сцежка. І німа каласкоў: чэраз усё поле.Эта, гаворацць, Гасподзь зажаў. Можна жаць!”

“Перва памоляцца: “Прасвятая Божжа Маці, памажы нам жыценька жаці!” — “Тады ж буду памагаці, калі ня будзеш сама ляжаці!” Выжынаюць сперва па адной жменьцы. І выжнуць, і пад пояс, каб паясніцы не бабелі”.

“Прыхожаеш жаць. І жнуць, і жнуць, і тады: “Нашлі! Нашлі!” сцежачку тую. І я відзела. Нізенька будзе, у два пальчыкі іцціць. Так відна, што падрэзаны каласочкі, а саломы ня відна. Дзе яна дзелася? І хапаем тэй жнеўнік. Жнеш, рукі баляць, тады ўжэ парацць зажонам Мацер Божай”.

### Першы сноп

Першаму снапу асаблівая пашана. Яго завуць “Імянінікам”. Яму прысвячаюць песню:

***Благадару Бога,***  
***Даждалася я новага хлеба,***  
***Снапок жыта зажала,***  
***Буду жаць, не ляжаць,***  
***Штоб капну мне нажаць,***  
***Нажаўшы змалаціць,***  
***Кашы наварыць***  
***І гасцей накарміць.***

Упрыгожаны ручніком альбо іншай тканінай, першы сноп змяшчаюць на Покуці, дзе ён знаходзіцца звычайна да канца дажынак. Першы сноп магічны. Зерне яго збіраюць да азімай сяўбы. Салому запарваюць для хворай жывёлы. На каласах вымаўляюць “нарадку”, “урок”, “валасень” (нарыў на пальцы) і іншыя хваробы.

“Першы сноп, як нажнуць, асобна паставяць, не ў абабак. Як дадому ідуць, першы эты снапочак каждая нясець. Як у хату толькі войдуць: “Уношыю першы сноп клапам і тараканам на гроб. Уходнае хазяін у двор — мухам, камарам з хаты вон”.

“Як былі свае палоскі, старшы ідзець з двара, снапок нажне, і ўвесь год яго бераглі. Перва на Кут ставілі. Дні тры пастаіць, тады ў амбар выносілі, на закот ставілі. Забалее скаціна, возьмець сколькі там каласкоў, звычайна дзевяць, і ў ваду, і давалі скаціне, і пырскалі па скаціне”.

“Як першае жыта пачынаюць жаць, прыносяць каласкоў і становяць на Кут жменю. З таго коласа вынімаюць тры каласы і шэпчуць “валасень”, калі нарывае палец”.

### Ад валасня

“Першым разам, Гасподнім часам Госпаду Богу памалюся, Мацеры Прачыстай пакланюся. Мацер Гасподняя, памагі валасень шаптаць. У чыстым полі, на сінім моры сідзела дзева, русы косы часала, ніцы волас убірала,на вецер пускала, яшчэ ўрочны, прыгаворны, мужскі, жэнскі, дзявоцкі, парабоцкі і ад худога, ліхога чалавека. Калі ад хлопца — пад казырок, ад дзеўкі — пад платок, ад жэншчыны — пад няметку, ад мужчыны — пад шапку. Выхадзі ліхі волас, на тры дзевяць колас”.

### Ад валасня

“Трэба дзевяць каласкоў жыта. Нагрэць вадзічку. Прыкласці каласкі на пухліну, вадзічку ліць і лічыць: “Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць: на каласкі паліваю і боль выбіраю”. А тады: “Дзесяць, дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, два, адзін: на каласкі паліваю. І боль выбіраю”. І: “Адзін, два, тры...” Тры разы перасчытаю”.

### Завой (залом)

Завой (залом) — зламаны ці зблытаны вядзьмаркай пук жытных сцяблінаў, які, па народных уяўленнях, мог наклікаць бяду на гаспадарскую ніву, прывесці да хваробы і нават смерці саміх гаспадароў альбо хатнюю жывёлу.

“Мая баба калісьці расказвала, што бачыла адных людзей. Яны дзелалі завой. Эта ўжо патом мая маці растлумачыла, што менавіта завоі яны дзелалі. Яны і воюць, і пішчаць, і крычаць, і загадваюць ком зямлі есці, каб баба іх ня выказала. Яна так і ўмерла, і нікому не расказала. Расказаць расказала, што бачыла, а хто — не сказала”.

“Я сама бачыла. Сабраліся две калдунні. Адна ад пароды знаючая, і другая знаючая: “Бабы! Хадзіце палуднаваць!” І садзяцца кучай. Папалуднаваліся і разгаварыліся. Адна: “Я лучшэ ўмею!” А другая: “Мой бацька лучшэ за тваю матку ўмеў”. А тая: “Мая матка лучшэ за твайго бацьку ўмела, і баба, і прабаба!” Спорылі, спорылі, тая кажа: “Я заў’ю, мяне ніхто не ўбача! І тая. А дзень жэ. Ну, бабы тыя, астальныя: “А ну-ка, паспрабуйце. Вот тады мы вам будам верыць”. Адна пашла ў паласу. Як туда ішла, бачылі, як адтуль — ня бачылі. І глядзелі ўсе на яе. “Ну, бачылі?” — “Не. Не бачылі”. Пайшла другая. Схадзіла, завіла, выйшла. Туда ішла, бачылі, адтуль — ня бачылі. — “Хадзіце паглядзіце, як завоі завязваюць!” Так хадзілі глядзелі. Усяродку павязана вузламі па чатыры каласкі ўместа, і кругом. І панадзелывалі так: каб ці памерлі, ці захварэлі, ці на скаціну, ці на што. А хопіцца чалавек, тады папа вядзе. Поп пачытае пракляцію, і той завой папарве. Яно ж не на папа здзелана”.

“Людзі былі такія, што нешта зналі. Завязваець куклу і гаворыць: “Як гэта кукла закручваецца, так, хто зрэжыць, штоб у таго рукі завярцеліся і закруціліся”.

“У бацькі майго на гародзе дзве сястры сталі жаць. А завой. Ня няда чапаць. Абыжні і ніхай стаіць. А ён касіў: “А старая! Выдумаеш!” Касой шах!шах!. І пасля абеда нават не пайшоў. Лёг. Цяпер шаптух мала. Дзед стары быў. Паклікалі. Адзвінуў койку, у галавах шаптаў, шаптаў, і бацька мой падняўся”.

“У нас у маткі лён быў харошы. Але завой. Матка службу наймала на палосцы. Бацюшка хрэстам вырваў той завой. Лёнам мы пользаваліся, а семяна ён забраў”.

Ад сябе дададзім, што завой, зроблены ў ільну, справа проста унікальная. Такога не сустрэнеш у запісах ніводнага этнографа альбо фалькларыста.

### Пра дабрахожых, дамавікоў і палявікоў

Тут неабходна заўвагу зрабіць пра “дабрахожых” (у некаторых вёсках кажуць — “дабрахочыя”). Гэта дэманічныя істоты, сведчанні пра якіх распаўсюджаныя на Веткаўшчыне, Чачэршчыне, у памежных з намі бранскіх вёсках. “Дабрахожыя” (“дабрахочыя) спалучаюць у сабе ўласцівае дамавікам, лесавікам. Клапоцяцца пра дабрабыт гаспадаркі, да якой належаць у ролі ахоўнага Духа. Часта гэта робяць за кошт суседзяў.

“Як мамка памерла? Прыбягае саседка: “Марына! Марына! Хадзі паглядзі, што ў нас з жытам за ноч стала!” Мамка прышла. Усё жыта ўпавал ляжыць, Яна памалілася і зжала тое жыта. Абмалолі і паелі. Ім нічога, а мамка памерла. Эта ж не людзі і не коні патапталі, а дабрахочыя. Яго нельга было жаці”.

“Я чула, быццам, у Колбаўцы былі два сыны і бацька. Жылі багата. Пехалі сыны за жытам. Бабы пажнуць і ў копы пакладуць. Прыехалі к капе. З другея капы, з паласы суседняе, набраў калосся вуж, і ў зубы, і нясе пад капу, пад іхняю. Яны стаяць глядзяць. А ён прынёс, пад капу паклаў. І папоўз назад. Яны ўздумалі: “Давай заб’ем!” І забілі. Гэта ж вужака. І тут ім абвясцілася: “Скажыце дамавому, што забілі палявога!” Прывезлі тое жыта. Склалі. Селі вячэраць і кажуць: “Бацька! Што такое? З Іванькавай капы ды пад нашу вужака нёс калоссе. Паклаў і назад пабег пад Іванькаву капу. А мы яму ня далі, засеклі кнутамі. І хтось сказануў: “Скажыце дамавому, што забілі палявога!” І хтось тут (верагодна, дамавік. — **Г. Л.**) з падпечча ў вакно. Вакно пабіў і знік. Яны ня бачылі — хто. Потым і коні, і каровы — усе сканалі”.

### Чый хлеб ядзім

Здаецца б, і не пытанне. Асабліва для селяніна. Для земляроба. Але ж...

“Такое жыта было, што каласы па метры. І ўсё нашаму брату мала — ненавідныя былі. Каторыя былі людзі — колькі і е, столькі і добра, як е, так і няхай. Гасподзь сказаў, даў глас: “Ну, раз з вас мала, колькі вы будзеце жыць — будзе мала”. І ўзяў гэтае жыта, паадразаў калоссе. Такое было, што не дзяржаў сцебель. Закаўкалі каты, закрычалі сабакі. Гасподзь сміласціўся, пакінуў каласок. А то б не было нічога. Так і кажам: “Жывем на сабаччай, на кацінай долі”.

“Столькі было каласкоў! Як каленца, так і каласок. А тады сталі людзі казаць, што цяжола ўбіраць. Ну, Бог і забраў. А каты і сабакі ў Госпада Бога выпрасілі толькі адзін каласок”.

### Як Бог мужчын аддзячыў

“Шоў старычок. Жне жэншчына жыта. — “Драствуйце” - “Драствуйце”. — “Памажы Божа”, — “Дзякуй”. — “Не ўкажыце мне дарогу?” — “Не, дзядзечка. Няма калі. Свякруха скажа, што гуляла, не жала”. Далей пайшоў. Мужчына косе. — “Драствуй, мужычок!” — “Драствуй!” — “Давай сядзем пакурым”. — “Давай!” — Ён сеў і давай курыць з ім. А тады кажа: “Ты мне не ўкажаш дарогу?” — “Укажу, айцец”. Ён жа ня знаў, што эта за старычок. Ён указаў. Той кажа: “Будзеце векаваць, жэншчыны, вам усе некалі будзе, а мужчыну заўжды будзе адпачынак”.

### Пра любоў

“Хазяін у жонкі пытаў: “Як ты мяне любіш?” А яна кажа: “Як касец вецер”. Ён рассердзіўся. Кінуў жонку і пайшоў. А жонка была цяжарная. Ішоў, ішоў і наняўся ў парабкі, кароў ганяў і ўсё рабіў. І паслаў пан касіць. А дзень жаркі. Ён касіў, касіў, а ветрык дыхнуў — і яму добра. Ён уздумаў тыя словы: “Эта ж жонка мяне любіць, як я вецер палюбіў”. Касу кінуў і пайшоў. Ішоў, ішоў, прыйшоў к жонцы. Прайшло больш дваццаці гадоў. Яна радзіла пару сыноў. — “Пусці ты мяне нанач!” — “Як я цябе пушчу?” Прасіў, прасіў — выпрасіў. Сыны пайшлі гуляць. Адзін прыйшоў часоў у дванаццаць. Ляп! Адчынілі. А патом другі прыйшоў. Ляп! Адчынілі. Сталі разгаварываць (ноч бальшая): “А дзе твой муж?” — “Мой муж кінуў мяне і пайшоў. Я радзіла сыноў. І ўжо дваццаць гадоў у мяне этыя сыны”. Так ён прызнаўся: “Я твой муж, а гэта мае сыны”.

***Усе гэтыя аповеды былі запісаны намі ў вёсках Глыбаўка і Неглюбка, Стаўбун і Косіцкая, Барталамееўка і Малыя Нямкі, і ў пасёлачку Ляды на Веткаўшчыне, у Ліцвінавічах Кармянскага раёна, у Верхлічах Краснагорскага раёна, што Брахшчыне, у Канічах Касцюковіцкага раёна на Магілёўшчыне.***

***Нашымі суразмоўцамі былі жыхаркі гэтых вёсак: Ефрасіння Барсукова, Анастасія Грынькова, Марыя Марозава, Ефрасіння Чваркова, Матрона Еціпнева, Ніна Марозава, Параскева Грыбанава, Наталля Казлоўская, Марыя Ліцвінава, Соф’я Грамыка, Лідзія Ракава, Насця Барабанава.***

***У зборы матэрыялу дапамагалі аўтару публікацыі супрацоўнікі музея Ларыса Раманава, Ірына Смірнова, Людміла Новікава, а таксама масквічка Алена Комлева.***

***Асаблівасці мовы жанчын захоўваюцца, але асобныя аповеды падаюцца ў скарочаным выглядзе.***

**Генадзь ЛАПАЦІН,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці**

***Звычайна перад друкаваннем вось такіх лістоў пішацца так званы ўступ, у якім аўтары публікацый пачынаюць жаваць жвачку, калі і як той ці іншы аўтар пісаў ім гэтыя лісты, у якой глыбока-інтымнай дружбе яны былі з вялікімі людзьмі, стараючыся на першы план вынесці і паставіць сваю асобу, маўляў, глядзіце, хто я такі, вунь як ценіў мяне нябожчык і — пацвярджэннем гэтаму лісты, якія прапануюцца чытачам.***

***Я не хачу рабіць такіх рызыкоўных прызнанняў і заяў. Пра мае адносіны, стаўленне да вялікага нашага паэта Пімена Панчанкі і яго сувязь са мною як не трэба лепш раскажуць лісты, напісаныя ім у апошнія гады жыцця. Адно, што я хацеў бы, дык гэта тое, каб побач з лістамі П. Панчанкі быў змешчаны мой верш, прысвечаны паэту, у якім сказана пра мае адносіны да яго і ягонай творчасці.***

Васіль МАКАРЭВІЧ

# Лісты Пімена Панчанкі

*Яны не ў былое,*
*А ў заўтра заглыблены.*
*Не хваляць і ўсё ж не клянуць Віскулі.*
*Пісаў іх, як важкую глыбу за глыбаю*
*Ён праўды адвальваў*
*Ад веку скалы.*

*Бацькоўскае слова*
*Ў вяках не загінула,*
*Хоць звесці ў магілу хацелі жыўцом.*
*Хто думаў калі пра жыццё замагільнае?*
*На д'ябла каму на тым свеце*
*Жыццё!*

*У нетры стагоддзя*
*Ўглядаўся дапытліва,*
*І бачыў, як слаліся беды ў лаўжы,*
*Частуючы выспяткам смелым ды пытляю,*
*Хто выспятка з пытляй спаўна*
*Заслужыў.*

*Ці раз выручаў*
*Ён няўмеку малодшага,*
*Што родную мову лічыў за латынь.*
*Прымалі яго за тутэйшага Ротшыльда, —*
*Бо гэтулькі меў ён радкоў*
*Залатых.*

*Пацьвельваў нязлосна,*
*Адкрыта вам кажучы,*
*І шпількі падчас падпускаў нездарма,*
*Хто прозвішча графа*
*Ці даўняга княжыча*
*Хацеў, быццам бант, прышпіліць*
*Да імя.*

*Ён мучыўся з музай,*
*Нязнанай халераю,*
*Ды ўсё-ткі не мог абысці старанай.*
*Хоць ведаў — лягчэй*
*Саўладаў бы з галераю,*
*Чым з леры капрызнай*
*Ды спеўнай струной.*

*Пакуль блюдалізы*
*Талеркі вылізвалі, —*
*Ў жыцці несучы свой пакутніцкі крыж,*
*Да раніцы ён размаўляў*
*з Мона Лізаю,*
*Аж дух заціналі і Луўр*
*І Парыж.*

*Не хлопцам з Бягомля*
*Ці недзе з-за Дрыбіна,*
*Дзе ўлетку гудзе залаты меданос,*
*Курсанту маскоўскаму,*
*з вершам задрыпаным,*
*Фігуру з трох пальцаў*
*Мог торкнуць пад нос.*

*Крывіўся з пагардай,*
*Як цёткі ўпрэлыя*
*З глыбокім разрэзам на кофце, крадком,*
*Сабе дасталі прэстыжныя прэміі*
*Не звонкім радком,*
*А, лічы, перадком.*

*Глядзеў, як Пегас*
*Каля рэчкі гуляючы,*
*То траўку скубе, то спрабуе аер.*
*А колькі гуляла з вачамі гарачымі*
*На чуйным Алімпе сучасных*
*Гетэр!*

*Душой ненавідзеў*
*І Брутаў і Цэзараў.*
*На яблыні позіркам лашчыў наліў.*
*Каб ведалі, колькі зануды і цэнзары*
*Здароўя і сілы ў яго*
*Аднялі.*

*Даводзіў услух,*
*Калі з'ехаць у Мексіку,*
*Дзе гліца на дрэвах вастрэй ад цвікоў,*
*Не высекчы самай найхітрай стамескаю*
*Са срэбраных зліткаў ні строф,*
*Ні радкоў.*

*Дзівіўся:*
*Хірургі ўчынілі пабоішча:*
*З-пад чэрапа ледзь не дасталі глузды!*
*Ды толькі ў калегі радкоў не пабольшала,*
*Ні з Міра ён іх не прывёз,*
*Ні з Узды.*

*Быў час, як гавораць,*
*Ні дома, ні замужам,*
*Хаця і адклаўся ў стагоддзі пластах.*
*Зірніце, пяшчота і гнеўныя залежы*
*Гараць, як на прыісках*
*Скрозь у лістах!*

---

**Добры дзень, Васіль Сцяпанавіч!**

Прачытаў у "ЛіМе" вашы вершы "Вяртанне" і "Чайкі захлынаюцца" і вельмі ўдзячны Вам. Вы адзін з нямногіх, хто зразумеў боль і адчай, што перапоўнілі мой верш "Развітанне". Асабліва цаню страфу:

***"Сам ад болю,***
***Нібы снег, збялелы,***
***Стане сам сябе калесаваць,***
***Каб за мову іншым забалела,***
***Каб яна змагла каласаваць!"***

А маладыя паэты "тутэйшыя" пачалі мяне зневажаць і клясці: "Можа вам і маці?.." "Можа вам і хлеб наш?.." і гэтак далей.

Калі большасць "тутэйшых" яшчэ і не нарадзілася, я ішоў у 1941 годзе дарогаю вайны ад Беластока (я там служыў у арміі 2 гады) і да Магілёва. Тады ў 41 годзе я напісаў верш "Беларусі", дзе выказана ўся мая любоў да роднага краю. Гэты верш быў надрукаваны ў франтавой беларускай газеце "За Савецкую Беларусь" (я служыў разам з Міхасём Лыньковым, Кандратам Крапівой і іншымі пісьменнікамі). Самалёты раскідвалі гэты верш на тэрыторыі акупіраванай Беларусі. Пра гэта ўспамінае адзін з кіраўнікоў партызанскага руху К. Т. Мазураў у кнізе "Незабываемое", ст. 257...

...Я вучыўся ў беларускай школе ў Бягомлі (нашы раёны амаль суседзі). Пяць гадоў я вучыў дзяцей беларускай мове і літаратуры ў Казулічскай СШ і Кіраўскай СШ. Праз дарогу за Кіраўскам раскінулася вёска Мышкавічы, дзе пазней праславіўся калгас "Рассвет".

Усё ва мне беларускае: і мова, і светаадчуванне, і людзі, і прырода, і песні. Усё гэта было натуральна і не выклікала ніякіх адмоўных эмоцый. Але... характар вечна прыгнечаных беларусаў я пачаў разумець рана.

"Жалкая нация, нация рабов, сверху донизу все рабы..." Гэтак пісаў у мінулым стагоддзі Чарнышэўскі пра рускі народ. А што мы маглі сказаць пра свой беларускі? Вечная прыніжанасць, адчуванне другараднасці, страта годнасці, халуйства перад рускімі і перад палякамі, няведанне сваёй гісторыі. І толькі мова, наша ўпартасць і бясконцая праца, наш сялянскі побыт, нашы абрады, нашы песні і казкі мацавалі народ.

І вось прыязджае наследнік Сталіна невук і хам Мікіта Хрушчоў. Абразіў на партыйным сходзе (я быў на гэтым сходзе ў Оперным тэатры) нашага беларускага кіраўніка Мазурава за яго даклад, які ён рабіў на беларускай мове. А пасля арганізаваў мітынг ля Універсітэта і пачаў агітаваць студэнтаў і выкладчыкаў супраць беларускай мовы. "Тот придет быстрее к Коммунизму, кто освоит великий русский язык".

І тут пачалася кашмарная старонка нашай гісторыі. Закрываліся беларускія школы, тэхнікумы. Фурцава прыслала тэлеграму, каб неадкладна перавялі ўсе інстытуты і тэхнікумы на рускую мову. Пачаўся здзек і насмешкі над нашай мовай. Халуі і кар'ерысты растапталі ўсё, што засталося ад роднай мовы, культуры, гісторыі.

Калі ў мінулым годзе да нас у Мінск прыехаў беларускі паэт з Амерыкі Масей Сяднёў (на жаль, я быў у гэты час хворы і не мог з ім спаткацца), ён быў балюча ўражаны: "У Мінску не пачуеш ніводнага беларускага слова, няма ніякіх слядоў беларускасці..." А мы разам з М. Сяднёвым пачыналі пісаць вершы. Яго беспадстаўна пасадзілі ў турму, а пасля вайна і — Амерыка.

Я доўгі час працаваў у Вярхоўным Савеце ў камісіі па адукацыі, навуцы і культуры (цяпер камісія падзелена). Я пабываў у многіх школах раёнаў і абласцей і ўсюды адно і тое ж: і бацькі, і вучні адмаўляюцца вучыцца ў беларускіх школах і класах, бо гэта не давала магчымасці ні паступіць у ВНУ, ні ўладкавацца на працы. Некаторыя дырэктары школ і раённыя начальнікі папракалі мяне: "У нас из-за белорусского языка плохая успеваемость и вы зря нас агитируете". Ды і зарплата выкладчыкаў белмовы было ніжэй, чым рускай. А нашы некаторыя пісьменнікі, вучоныя, калі часам і заікаліся пра мову: "трэба адрадзіць", "наша мова ў загоне" і г. д. А самі аддавалі сваіх дзяцей, а пазней і ўнукаў у школы з англійскай мовай, прыстройвалі ў інстытут замежных моў... А далей Вы ўсё ведаеце самі. Скарачаліся беларускія газеты, выпуск кніг; усе размаўлялі на камароўскай мешанцы; а вучні, баючыся здзеку, не прызнаваліся, што яны разумеюць беларускую мову.

Так хам і нягоднік затаптаў нашу мову, нашы школы, а мы з гэтым змірыліся. І вось праз трыццаць год з'явілася рэспубліка Беларусь. Бел-чырвона-белы сцяг, "пагоня". А наменклатура супраціўлялася і супраціўляецца.

У паэзіі, у музыцы здаўна прысутнічае тэма разлукі, развітання — аж да "Прощай, немытая Россия". Вось я і думаў гэтым вершам развярэдзіць рэшткі любові нашых людзей да беларускай мовы. Але не выйшла.

Вядомы рускі пісьменнік В. Салаухін, якога з Я. Брылём вазілі па Заходняй Беларусі і Нёмане, у канцы паездкі за чаркай сказаў: "Я убедился, что белорусы — это те же русские". А Андрэй Вазнесенскі зазначыў: "Белорусь — это гениальный Шагал, который родился в русском городе Витебске. Могилев? Это где отважно сражался К. Симонов. Ну еще Бедуля, который помог мне в трудное время...".

Ох, як цяжка будзе нам аднавіць сваю годнасць, свой аўтарытэт, сваю мову. А тут яшчэ ўсесаюзнае засілле ў рускай літаратуры розных дысідэнтаў і здраднікаў. Ужо здзекаюцца над Шолахавым і Твардоўскім. А нашы беларускія маладыя паэты, якія пішуць на ўзроўні другаразрадных нашаніўцаў, пачынаюць крышыць "аўтарытэты".

Цяжка нам, вельмі цяжка будзе нам аднавіць нашу родную мову і сваю культуру. Але першыя зрухі ёсць.

Віншую Вас з рэспублікай Беларусь! З гербам! Са сцягам!

*Ваш Пімен ПАНЧАНКА*

Жадаю Вашаму таленту новых твораў. Друкавала мой расказ Зоя Кірылаўна. У мяне пасля інсульту не піша рука.

**Надпіс на кнізе "Горкі жолуд".**

Дарагому Васілю Макарэвічу.

Днямі слухаў Вашу перадачу пра аднаго паэта. Вельмі ўдзячны Вам і, асабліва, за тое, што Вы разумееце паэзію маю — не такую ўжо і выдатную — як разумелі яе мае сябры: А. Куляшоў, М. Стральцоў, Р. Барадулін... wait

24.03.89 г. Ад усяго сэрца — Пімен Панчанка.

**Дарагі Васіль Сцяпанавіч!**

Шчыра дзякую Вам за перадачу па радыё 22 кастрычніка. Слухаў перадачу разам з жонкай і дачкой Таццянай. Быў проста расчулены. Глыбока, смела, нібы навуковая дысертацыя, толькі тон не суровы, а лірычна-доказны.

Дзякую, што Вы капанулі глыбей у значнай частцы маіх твораў.

23 хацеў пазваніць Вам, у Галоўную рэдакцыю літаратурна-драматычнага вяшчання. Мне адказалі: "Не туды звоніце". Можа, нашы тэлефоны ў Чырвонай кніжачцы устарэлі. А хатні тэлефон у Вас не пазначаны.

Многа раз дзякуем Вам і жадаем усяго найлепшага.

*Ваш Пімен ПАНЧАНКА*

*24.X.91 г.*

**P. S.** Як бачыце, я пасля інсульту, у другі раз навучыўся пісаць, хоць пакуль што дрэнна.

**Дарагі Васіль!**

Сёння апоўдні я прачытаў выдатную паэму "Майстру — лісты з Юрмалы". Гэта ўжо спелы твор майстра, майстра Васіля Макарэвіча.

Няма пустых слоў, пустых выразаў і вобразаў.

Даў пачытаць жонцы Зоі Кірылаўне (якая больш 40 гадоў жыве з паэтам), і яна сказала: "Мацней, чым у ...(тут яна назвала прозвішча). Таленавітыя рыфмы.

Калі я слухаў Ваш урывак па тэлефоне (а я не ўсё дачуваю, не імгненна, як раней, успрымаю думку, вобразы і г. д.), мяне трохі занепакоіла, што Вы (быццам бы) нападаеце і "нізвяргаеце" Леніна. А гэта на справе не так. Можа, дапамаглі Вашы праўкі? А Ленін засадзіў Беларусь за парты, даў зямлю, увёў НЭП.

Цяпер закрэсліваюць творчасць Горкага, Шолахава, Маякоўскага, Твардоўскага. А на слыху газет і крытыкаў Ганна Ахматава, Пастэрнак (добры паэт і нікчэмны празаік), Мандэльштам, Бродскі і г. д.

А цяпер у Вашай паэме — "поўны парадак".

Вострая, свежая рэч, варта яе як-небудзь адзначыць!

Ды не ябы-як, а як-небудзь!

Вось што нарабілі са мной інфаркты і інсульт!

(Пісаць развучыўся, думаць — трохі думаю!)

Цяпер мне можна і на заслужаны адпачынак!

Пішыце! Я ў Вас моцна веру!

*Абдымаю — Пімен Панчанка*

*2.02.93 г.*

**Паштоўка**

**Дарагі Васіль Сцяпанавіч! 6.12.93 г.**

Вітаю Вас і віншую з кнігай вершаў. З кнігай паэзіі "Везувій". Гэта цудоўная кніга! У ёй усё ёсць: і роздум, і смеласць, і добрыя думкі, і змест паэтычных знаходак.

І не толькі "На поўны голас", але вершы, напісаныя няпоўнымі, "Камяні", "Жніво", "Праз сіта памяці гады прасей", "Бермудскі трохвугольнік". Вельмі хораша прагучалі "Штрыхі да партрэта". Асабліва пра Караткевіча, Міхася Стральцова, Жэню Янішчыц. Я іх любіў, люблю і добра помню. Ёсць і недахопы, выдаткі. Але справа ў тым, што гэта сапраўдная паэзія, якой я веру.

Шчасця і поспехаў Вам! З Купалам! Прабачце за дрэнны почырк.

*Пімен ПАНЧАНКА*

---

# Генадзь РЫМСКІ

23 жніўня пасля цяжкай працяглай хваробы памёр беларускі паэт і перакладчык, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар Генадзь Рымскі.

Генадзь Васільевіч Рымскі нарадзіўся 19 верасня 1936 года ў г. Валгаградзе. У 1954 годзе скончыў школу з сярэбраным медалём і паступіў у Гатчынскае Вышэйшае ваенна-марское інжынернае радыётэхнічнае вучылішча. З 1960 года працаваў у Інстытуце матэматыкі і вылічальнай тэхнікі АН БССР спачатку старшым інжынерам, потым інжынерам-канструктарам, галоўным інжынерам лабараторыі. У 1965 годзе пасля стварэння Інстытута тэхнічнай кібернетыкі ў Акадэміі навук быў пераведзены туды і працягваў актыўную навуковую працу ў галіне кібернетыкі. У 1970 годзе перайшоў у Мінскі радыётэхнічны інстытут на пасаду дацэнта. У 1979 годзе быў абраны загадчыкам кафедры. У 1980 годзе абараніў доктарскую дысертацыю ў Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя М. Э. Баумана на тэму "Агульная тэорыя каранёвых траекторый і аўтаматызацыя даследаванняў сістэм кіравання на яе выснове". У 1981 годзе ВАК СССР прысвоіла Рымскаму званне прафесара. З 1972 па 1973 гады праходзіў навуковую стажыроўку ў Вашынгтонскім і Каліфарнійскім універсітэтах горада Лос-Анжэлес. У 1985 годзе вярнуўся для навуковай працы ў ІТК АН БССР. У 1986 годзе быў абраны на пасаду загадчыка лабараторыі, дзе і працаваў да апошняга моманту. Генадзь Рымскі аўтар 235 навуковых прац, у тым ліку 6 манаграфій, 30 пасведчанняў на вынаходніцтвы, 13 патэнтаў замежных краін (ЗША, Японія, АНглія, Францыя, Італія, ГДР і інш.). У 1995 годзе Генадзю Васільевічу прысуджана прэмія за лепшую навуковую работу Акадэміі навук Беларусі.

Займацца паэзіяй Генадзь Рымскі пачаў з 1956 года. Першыя літаратурныя творы змясціў у зборніку "На грани" (1959). Але друкавацца сістэматычна стаў толькі ў 1994 годзе. Вершы змяшчаліся ў газетах і часопісах — "Знамя юности", "Нёман", "Вестник Первомайского района", "Голас Радзімы", "Личность", "Навіны АНБ" і інш. У 1998 годзе ў выдавецтве Літаратурнага інстытута імя М. Горкага выдаў зборнік перакладаў беларускіх паэтаў "Белорусская лирика XIX—XX веков в переводах Геннадия Римского".

Побач з шырокавядомай у навуковым свеце працаю Генадзь Васільевіч сістэматычна і настойліва працаваў над перакладам 57 беларускіх паэтаў, працаваў з пачуццём вялікай адказнасці. Шчырыя прызнанні ў любові і адданасці Беларусі ўпрыгожваюць усю творчасць Рымскага-паэта.

Светлая памяць пра пісьменніка, чалавека высокай маралі і душэўнай дабрыні назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

**Калектыў УП "Выдавецтва "Полымя" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы СЯМЁНАВАЙ Любові Канстанцінаўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — заўчаснай смерцю МУЖА.**

# У Скарынаўскім цэнтры

6—7 верасня 2000 года ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны адбудзецца "круглы стол" па праблеме "Ідэя беларускасці і ідэя польскасці на мяжы тысячагоддзяў: да вызначэння паняццяў". У працы "круглага стала" возьмуць удзел вядомыя навукоўцы з Польшчы — выкладчыкі Варшаўскага, Беластоцкага і Люблінскага універсітэтаў, — навукоўцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Скарынаўскага цэнтра, выкладчыкі ВНУ Рэспублікі Беларусь, асветнікі.

Напрыканцы другога тысячагоддзя важна асэнсаваць, якім духоўна-культурным набыткам валодае беларуская нацыя, наколькі ўсведамляе сябе і сваю ролю ў сусветнай сімфоніі дзяржаў, культур і цывілізацый. Вядома, гэта лягчэй зрабіць праз параўнанне з тыпалагічна блізкім народам, напрыклад, з польскім.

Вышэйзгаданую праблему плануецца разгледзець у трох аспектах — філасофска-метадалагічным, культуралагічным і гістарычным, ці дзяржаўна-грамадскім.

"Круглы стол" ладзіцца Скарынаўскім цэнтрам пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.

**Чакаем прапаноў. Тэл. 220-93-50.**

# Рыхтуй камп'ютэр — “Ur'ia” надыходзіць!

Так здарылася, што пасля знаёмства з дэма-varыянтам новага кампактдыска “Ur'ia” дыджэі некаторых мясцовых FM-радыёстанцый паспяшаліся аб'явіць музыку гурта нефарматнай. Ведаючы густы гэтай “попс”-публікі, толькі па адной іх гэтай адзнацы, можна было меркаваць, што дэбютны альбом “Ur'ia” — неардынарны для беларускай рок-музыкі.

І сапраўды, апрацоўкі беларускага фальклору ў выкананні сучасных рок-калектываў — з'ява не такая рэдкая. А тут сапраўдная сенсацыя — упершыню на Беларусі выдаецца паўнавартасны мультымедыйны дыск з запісамі фолк-рокавага гурта “Ur'ia”!

Але не толькі модным фарматам адметная гэтая работа, а, перш за ўсё, музычным зместам. Творы, што гучаць на дыску, былі запісаны музыкамі падчас фальклорных экспедыцый па розных рэгіёнах Беларусі. А збор песень — праца вельмі далікатная, адказная і напружаная. Таму музыкі “Ur'ia” робяць усё, каб найбольш поўна захаваць мелодыю, вакальную манеру і фанетычныя асаблівасці маўлення мясцовых выканаўцаў беларускага фальклору. На думку гурта “Ur'ia”, гэта — рашаючыя складнікі самабытнасці таго ці іншага фальклорнага твора.

У час, калі этнічная музыка набывае ўсё большую папулярнасць і попыт, яе апалагеты часцяком ідуць пракладзенымі шляхамі, выкарыстоўваючы раней напрацаваныя музычныя хады і штампы, механічна аздабляючы імі аўтэнтыку той ці іншай краіны. У выніку атрымліваецца нешта знешне бліскучае, але вельмі далёкае ад народнай музыкі, яе душы.

Музыкі “Ur'ia” цвёрда вырашылі пазбаўляцца гэтых хібаў, і першым крокам да гэтага стала адмова ад выкарыстання модных электронных інструментаў і рытм-машынак на карысць жывых, хай сабе і электрафікаваных інструментаў, гук якіх яны прапускаюць праз архаічныя (вытворчасці 60-70 гадоў) лямпавыя ўзмацняльнікі. Менавіта гэткая апаратура дазваляе захаваць гук, наблізіць яго да натуральнасці. Сучасныя камп'ютэры выкарыстоўваліся толькі для звядзення вакальных і інструментальных партый у адну фанаграму, у адзінае музычнае палатно.

Менавіта таму гучанне “Ur'ia” нейкаму слухачу нагадае этнічны хард-рок “Led Zeppelin”, фолк-рок Боба Дылана, хард-блюз Джымі Хендрыкса — гучанне гігантаў 60-70 гадоў нашага стагоддзя — эпохі руху хіпі, вінілу і Вудстока. Але гэта — толькі магчымыя накірункі параўнанняў і паралеляў. На музычны рынак “Ur'ia” выходзіць з вельмі пазнавальным гучаннем: з дамінаваннем складаных вакальных партый у аўтэнтычнай манеры, багаццем рытмічнага малюнка ударных, выкарыстаннем экзатычных інструментаў... Напрыклад, сола сітара заклікана нагадаць пра інда-еўрапейскія карані беларускага фальклору, а гарлавы спеў кіраўніка гурта Ю. Выдронка — пра фіна-ўгорскі (паводле гісторыка і даследчыка І. Ласкова) шлях нашых продкаў на тэрыторыю сучаснай Белару-сі.

Але самае галоўнае — хвалюючы мелас народных песень, якія дайшлі да сучаснікаў праз стагоддзі. Таму мы суперажываем продкам, якія даўней гукалі вясну, спяваючы радасныя, аптымістычныя вяснянкі “Веснаучуха”, “Агу, вясна!”, заміраем ад жаху пры слуханні жорсткіх “Двух брацікаў” ці песні-плачу “На тый свет па мамку”, смяёмся з гумарыстычных “Таўкачыкаў”. І ўсе гэтыя пачуцці зліваюцца ў своеасаблівыя гукавыя і музычныя малюнкі, дзе лепшым, на мой погляд, можна назваць апрацоўку “Зелен дубочак”.

Але за фальклорнымі апрацоўкамі “Ur'ia” не трэба забывацца і на тое, што дыск “Веснaчуха” — цэлая інтэрактыўная энцыклапедыя гурта. Пра яе склад расказвае спецыяліст па камп'ютэрным праграмаванні, аўтар мультымедыа кампакта Алекс Раманоўскі:

“Мультымедыйная частка дыска, які, дарэчы, выходзіць на лэйбле “Aria Records”, складаецца з відэапрадстаўлення этна-рок-шоу “Ur'ia” ў выглядзе ўрыкаў з канцэртаў, фальлкорных экспедыцый, момантаў рэпетыцый... Далей уладальнікі дыска маюць магчымасць пазнаёміцца з кліпам лэйбла “Aria Records” прадстаўляе” і яе фірмовай застаўкай. Тут ёсць таксама відэа-ролік з архаікай — у прыватнасці, галоўная песня альбома “Весначуха” ў выкананні вясковых пявунняў, і, для параўнання, апрацоўка гурта “Ur'ia”. Далей, можна паназіраць за выступленнем музыкаў на фестывалі “Славянскі базар” і на “Рок-каранацыі”. Найбольш падрабязную гісторыю гурта распавядаюць самі музыкі, падчас прадстаўленага на дыску імправізаванага інтэрв'ю-бяседы. Ёсць таксама і патрэбнае журналістам слайд-шоу.




Кніжка-ўкладыш у дыск выканана на падставе графічнага твора мастака Язэпа Драздовіча. Але і пры праслухоўванні дыска ёсць магчымасць праглядаць адпаведныя творы вялікага беларускага Мастака. Тут жа на экране камп'ютэра выведзены тэксты песень па-беларуску і па-нямецку. Чаму толькі на гэтых мовах? Былі ў нас спробы перакласці тэксты па-англійску і па-руску, але безвыніковыя — у перакладах на гэтыя мовы губляецца сэнс твораў. Па-нямецку ж, найбольш блізка да арыгінала!

Усе гэтыя “навароты” — не проста дэманстрацыя магчымасцяў, а разлік на цікаўнасць сённяшняга маладога чалавека, які вялікую частку свайго вольнага часу праводзіць за клавіятурай камп'ютэра. І калі ў нас ёсць магчымасць паказаць яму ўзоры творчасці нашага гурта ў прыдатнай для яго форме, то чаму б не паспрабаваць гэта зрабіць? Прынамсі, такое мультымедыйнае начынне дыска будзе спрыяць большым ведам у Еўропе пра гурт “Ur'ia” і пра Беларусь увогуле!”

Пасля знаёмства з усім аўдыё- і відэаматэрыялам, зафіксаваным на кампакт-дыску “Весначуха” гурта “Ur'ia”, неяк слушнай падалася такая крамольная думка: напэўна, вось калі беларускія рок-музыканты “ўвойдуць у фармат” мясцовых FM-радыёстанцый, дык тады можна будзе гаварыць пра смерць беларускага рок-руху. А пакуль ствараем сваё, адметнае і... нефарматнае!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД “ЛіМа”

**ЭКРАН**

***Беларускае тэлебачанне і надалей застанецца спрэс заідэалагізаваным. Менавіта такую выснову можна зрабіць пасля таго, як новы старшыня Белтэлерадыёкампаніі, лідэр кампартыі, Віктар Чыкін пазнаёміў грамадскасць са сваёй канцэпцыяй дзейнасці адзінага айчыннага тэлеканала. Прынамсі, на год, бо менавіта такі тэрмін ён адводзіць сабе на яе ажыццяўленне, а як не атрымаецца, то сыдзе ў адстаўку.***

***Што да рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм, чые перадачы звычайна анансуе “ЛіМ”, то яна пакуль што ў прастоі. У эфір некалькі тыдняў выходзяць адныя паўторы. Справа ў тым, што тут сталі працаваць па іншым прынцыпе: ставіць у расклад тэлесеткі толькі ўжо гатовыя праграмы. Але якая тады будзе аператыўнасць? Разам з тым у літдрамрэдакцыі з'явіўся новы кіраўнік. Ім стаў рэжысёр Юрый Азаронак, які “праславіўся” фільмам “Нянавісць: дзеці хлусні”.***

**У ЧЫРВОНЫМ КАСЦЁЛЕ**

Польскае пасольства і Польскі інстытут у Мінску ладзяць паказ дакументальных фільмаў, прысвечаных 20-ай гадавіне ўтварэння “Салідарнасці”.

*1 верасня, 18.00* — “Два алтары, два паломніцтвы”

*2 верасня, 11.00 і 18.00* — адпаведна дак. фільм “Ад апазіцыі — да ўлады” і спектакль “Перад крамай ювеліра”

*3 верасня, 18.00* — “Смерць як акраец хлеба”

*4 верасня, 18.00* — “Гарнякі з шахты Вуек”

**РАМПА**

*3 верасня* — Тэатр оперы і балета адкрывае новы сезон прэм'ерай — операй “Дон Жуан”

*8 верасня* — у ДК імя Дзяржынскага тэатральны праект “Віртуозы сцэны” прадстаўляе першы свой у гэтым сезоне спектакль “Дурнотнае каханне”

*14 і 15 верасня* — у памяшканні Купалаўскага тэатра швейцарскі Тэатр Расін на французскай мове (з перакладам на рускую) пакажа пастаноўку “Выпадак у заапарку” паводле Э. Олбі

**ВЫСТАВЫ**

*Да 10 верасня* — у галерэі “La Sandr” (Свярдлова, 4) працуе выстава “З класікі беларускага мастацтва. Іван Ахрэмчык”. Прадстаўленыя ягоныя партрэты і пейзажы 40—60-х гадоў. Дарэчы, імем Івана Ахрэмчыка названы Рэспубліканскі каледж музыкі і выяўленчага мастацтва

*З 31 жніўня* — па ўвесь верасень у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пры ўдзеле фотаклуба “Мінск”, якому сёлета спаўняецца 40 гадоў, праходзіць фотафестываль, у межах якога будуць дзейнічаць адразу 3 выставы. Гэта “Беларускі фотаальбом”, дзе можна пагледзець здымкі Мінска 19—20 стагоддзяў, “Рэтра-2” са здымкаў 60—80-ых гадоў, а таксама Міжнародная выстава піктарыяльнай фатаграфіі сяброў клуба “Мінск” з Літвы, Украіны, Нямеччыны, Расіі і іншых краін.

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

*1 верасня,* Дом афіцэраў, кіназала, 10.00. Сустрэча з навучэнцамі вучэльні N 93 “Беларуская літаратура ў XXI стагоддзі”.

*1 верасня, 9.00.* Сустрэча з навучэнцамі Мінскай вучэльні паліграфістаў.

*1 верасня, 11.00.* Сустрэча з чытачамі ў парку імя Горкага, прысвечаная Дню ведаў.

*3 верасня,* Заслаўе. Дзень беларускага пісьменства і друку.

*7 верасня,* бібліятэка СБП, 12.00. Урок, прысвечаны 85-годдзю Масея Сяднёва.

*12 верасня,* Вялікая зала, 18.00. Да 50-годдзя Галіны Каржанеўскай.

*14 верасня.* Сустрэча з навучэнцамі ў адной са школ г. Мінска, прысвечаная творчасці Язэпа Семяжона.

*14 верасня.* Універсітэт культуры (чытальная зала бібліятэкі, 2-і паверх), 15.00. Да 60-годдзя Генадзя Тумаша.

*15 верасня.* Пасяджэнне ваенна-шэфскай камісіі.

*21 верасня.* Вялікая зала, 18.00. Да 90-годдзя Хаіма Мальцінскага.

*22 верасня,* бібліятэка імя А. С. Пушкіна, 16.00. Да 50-годдзя Івана Карэнды.

*26 верасня.* Пасяджэнне бюро секцыі крытыкі.

*26 верасня,* бібліятэка Дома літаратара, 13.00. Да 75-годдзя Навума Кісліка.

*28 верасня.* Нацыянальная бібліятэка, 15.00. Да 100-годдзя Сымона Баранавых.

*28 верасня,* Канферэнц-зала. “Круглы стол”: “Праблемы выхавання і дзіцячая літаратура”.

*Па панядзелках.* Пасяджэнні літаратурнага аб'яднання “Літаратар”.

## “Зьніч” запрашае

Дарагія сябры, 12 верасня а 19 гадзіне Беларускі паэтычны тэатр аднаго актора “Зьніч” запрашае Вас на дабрачынны спектакль “Выгнанне ў рай” Н. Раппа (аб жыцці славутай Рагнеды). Усе сродкі ад спектакля пойдуць на падтрымку Чырвонага касцёла св. Сымона і св. Алены, у якім павінны прайсці вялікія работы па ўсталяванні пажарнай сігналізацыі агульным коштам 13 мільёнаў 800 тыс. рублёй. У выпадку невыканання неабходных работ эксплуатацыя касцёла будзе прыпынена.

Чакаем вас з удзячнасцю у тэатральнай зале касцёла.

## Беларускі калегіум і Польскі інстытут у Мінску

**ЗАПРАШАЮЦЬ**

на публічную лекцыю прафесара Ежы Хольцэра на тэму “Сацыяльныя і палітычныя перамены ў Польшчы”, якая адбудзецца 5 верасня ў бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак у 18.30.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*

**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*

**Мікола ГІЛЬ,**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Яўген РАГІН,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**

**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**

**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**

**літаратурнага жыцця — 284-8462**

**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**

**паэзіі і прозы — 284-8204**

**музыкі — 284-8153**

**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**

**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**

**навін — 284-8462**

**мастацкага афармлення — 284-8204**

**фота-карэспандэнт — 284-8462**

**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 31.08.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4527.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12